Даліся ў знакі тыя дні работ так званага нулявога цыклу. Варта ўспомніць, як капаліся ў той гліне дзве Марыі і Марына — Панасевіч, Сівакова і Лістападава, Уладзімір Балдыкоў, Іван Міхайлаў з бендзікаўскай брыгады. Ды ці толькі яны. Трэба ж было адарвацца, вылезці з зямлі.

Трыснёг арматуры і гатовыя бетонныя кубы паказвалі свой нораў, патрабавалі добрых нерваў, майстэрства, вынаходлівасці і проста элементарнай мускульнай сілы, бо з кранам не ўсюды і не раптам сунешся — хоць будуй спецыяльныя пад'езды. І калі тэхніка не магла даць, што ад яе патрабавалася, браліся хлопцы за ломікі, каб зрабіць ручную даводку. Памалу, але станавіліся паслухмянымі глыбы бетону, займаючы прадугледжанае ім месца — на вякі.

Пачынаўся першы год новай пяцігодкі.

Уздыхнулі хлопцы з палёгкай, калі вырваліся на мантажны прастор. Паспрабуй пакажы, што там пад зямлёю, а мантаж корпуса — гэта ўжо відавочны помнік працы. Як у той песні: а без мяне — тут нічога б не стаяла... Калі б не было такой песні пра рабочую гордасць, яе варта было б прыдумаць....

Пакуль фронт работ разгортваўся, брыгада мантажнікаў канструкцый Міхаіла Краснова праявіла ініцыятыву, хлопцы самі зманціравалі тры адміністрацыйна-бытавыя корпусы, хоць звычайна гэтую работу выконваюць субпадрадчыкі. Калі ж пачаўся мантаж пускавога комплексу, зноў вызначыліся красноўцы. Брыгаду яны падзялілі на тры звяны і працавалі ў тры змены. Прама скажам, не часта такое сустрэнеш у будаўнікоў і мантажнікаў. Кожнаму хочацца, каб працы быў свой час, адпачынку — свой. Выйграе ж справа — тая ж брыгада пры трохзменцы робіць значна больш, не прастойвае тэхніка. Тут не да асабістых зручнасцяў — магілёўскі шоўк пойдзе хутчэй.

А хіба не пра гэта думаў прараб Фёдар Казюкоў, калі здарылася затрымка з чарцяжамі кампрэсарнай станцыі. Станкі пнеўматычныя, ім сваё давай. У два разы хутчэй, чым прадугледжвалася, выканалі ўвесь аб'ём работ, ужо ідзе мантаж кампрэсараў.

Магілёўскі шоўк...

Даўно ён славіцца. Толькі трэба было везці яго на ткацкія фабрыкі другіх гарадоў. Ужо недалёка той час, калі можна будзе сказаць: самі ўмеем прасці, самі ўмеем і ткаць.

Магілёўскі шоўк!

Сто мільёнаў квадратных метраў тканіны ўявіць сабе цяжка, як касмічныя велічыні, але ж прывыклі людзі і да касмічных катэгорый. Лягчэй будзе ўявіць сабе такую шаўковую стужку мятровай шырыні, якой хопіць два-тры разы зрабіць апаяску вакол нашай планеты. Такі шаўковы банцік. І ўсё гэта — нітачка да нітачкі — сатчэ адзін камбінат за адзін год.

Гэта не бабульчыны кросны!

Ёсць чым ганарыцца будаўнікам. І тым, хто першы прыйшоў на поле, каб закласці вытворчую базу, падвесці ваду, электраэнергію, дарогі, і тым, хто цяпер узводзіць гмахі вытворчых будынкаў. Расце камбінат, растуць і самі будаўнікі.

Расказвае сакратар партбюро будаўнічага ўпраўлення № 53 трэста «Лаўсанбуд» Уладзімір Фёдаравіч Косцін:

— Першым прарабам і начальнікам участка быў камсамолец, нядаўні выпускнік інстытута Сяргей Трыч. Калі не было тут ні базы, ні дарог, ён адразу ж не разгубіўся, паказаў сябе здольным арганізатарам. За гэты час стаў членам партыі. Ужо ён пайшоў на павышэнне. Наш нязменны сакратар камсамольскай арганізацыі Фелікс Цымбарэвіч; з першых дзён на будоўлі працуе майстрам Эдуард Горскі. Нельга не адзначыць прараба Міхаіла Казлова з упраўлення механізацыі № 81 трэста «Лаўсанбуд». Ён кіраваў землянымі работамі. Першыя нашы муляры — гэта камсамольцы з брыгады Васіля Свістуна Уладзімір Астапаў, Іван Асмола. Першыя мантажнікі — камсамольцы з брыгады Міхаіла Краснова Васіль Бядулін (цяпер член партыі), Аляксандр Малахаў, Уладзімір Чарноў.

Трэба сказаць, што зараз, напярэдадні пуску першай чаргі, працоўнае напружанне яшчэ большае. Людзі ўносяць свае прапановы, як лепш і хутчэй здаць аб'екты. Вось толькі адзін прыклад. Калі закончыўся мантаж круцільна-ткацкага корпуса, трэба было зрабіць бетонную падлогу для станкоў з асаблівай гарызантальнай дакладнасцю. Справу даручылі брыгадзе Бендзікава. Бетоншчыкі прымянілі шарнірныя рэйкі сваёй канструкцыі, дзякуючы чаму дамагліся не толькі высокай якасці, але і значна паскорылі работу.

Разам з будаўнікамі будаўнічага ўпраўлення № 53 працуюць брыгады з БУ-65, БУ-129, БУ-179, упраўлення «Белэлектрамантаж», Магілёўскага ўчастка «Саюзлегмаш», мантажнікі «Прамвентыляцыі», брыгады ўпраўлення «Прамналадка», іншых субпадрадных арганізацый. Сотні людзей. Гэта і ёсць ударная камсамольская будоўля.

Не раз даводзілася мне быць на камбінаце, сустракацца і з тымі, хто будуе камбінат, і з тымі, хто будзе на ім працаваць. Усе яны людзі пераважна маладыя, энергічныя, з той непаседлівасцю, без якой нельга ўявіць сабе працаўніка сучаснай будоўлі.

...Шмат клопатаў і ў начальніка штаба ўдарнай камсамольскай Міхаіла Старасціна. Так часта здаралася, што яго бачылі то на аб'ектах, то ў дырэкцыі, то ў трэсце, то ў гаркоме камсамола. Работа ў Міхаіла не кабінетная. Яшчэ шмат няўвязак. Завод зборнага жалезабетону паставіў рыгелі, якія не адпавядаюць заказу, і гэта было затармазіла справу. Затрымаўся мантаж трансфарматарных падстанцый, сілавой сеткі, марудна ідуць работы па падачы вады з Палыкавіцкага водазабору, каналізацыйнікам не хапае труб і г. д.

Між тым прадугледжана ўжо ў чацвёртым квартале гэтага года выпусціць 1.475 тысяч квадратных метраў тканіны, а да першага студзеня 1974 года ўвесці ў эксплуатацыю першы пускавы комплекс на 800 шырокіх пнеўматычных ткацкіх станкоў з гадавой праграмай звыш як 30 мільёнаў метраў тканіны.

Ідзе абсталяванне з многіх гарадоў нашай краіны, напрыклад, з Новасібірска, Хабараўска, з-за мяжы — з Чэхаславакіі, Францыі, ФРГ і іншых краін.

Магілёўскі шоўк абсталёўвае сваю вытворчую базу.

І рыхтуе свае кадры.

Ёсць такая народная прыкмета: ластаўкі прыносяць сапраўдную вясну. Злятаюцца і на камбінат першыя ластаўкі — першыя ткачыхі, якіх рыхтавалі аднатыпныя прадпрыемствы розных гарадоў краіны. Па шэсць месяцаў асвойвалі яны ткацкія і праборачныя станкі, а цяпер працуюць там, набіраючыся вопыту. Прадпрыемствы Віцебска, Чаркаска, Кіева, Калініна, Маскоўскай вобласці падрыхтавалі больш тысячы дзяўчат-ткачых для Магілёўскага шоўкаткацкага камбіната.

На камбінаце ўжо ўстаноўлены і працуюць першыя ткацкія і праборачныя станкі. Ну, ткацкія — гэта кожнаму зразумела. А праборачныя? Пра іх можна сказаць проста. Каму не даводзілася ў дзяцінстве (бо цяпер такога ўжо, мабыць, і не ўбачыш)назіраць, як маці ці бабулька ладзіць хатнія кросны, як яна працягвае кожную нітачку ў ніты і бёрда. Такія «ніты», толькі металічныя, робяцца на праборачных станках, у іх на кожнае палатно трэба ўцягнуць, як у igольчыны вушкі, ні многа ні мала 7.200 нітачак. Пасля гэтых «кросны» можна паставіць на ткацкі станок.

У будучым калектыве камбіната каля 80 працэнтаў рабочых месцаў адводзіцца жанчынам, а дакладней кажучы, дзяўчатам, якія цяпер толькі асвойваюць новую для сябе (ды і для горада) спецыяльнасць. Гэта будзе, бадай, самы буйны маладзёжны калектыў Магілёва.

Кіраўніцтва камбіната клапоціцца, каб рабочай моладзі было дзе жыць. У чацвёртым квартале гэтага года засвецяцца вокны двух вялікіх інтэрнатаў з усімі выгодамі для жыцця, адпачынку і вучобы.

Але ж які б добры ні быў інтэрнат — гэта жыллё маладзёжнае, часовае. Як пяецца ў песні — кожнай дзеўчыне шчасця хочацца. І ў кожнай будзе калісьці сям'я, дзеці. Пра гэта камбінат клапоціцца ўжо. Плануецца шырокае жыллё-

вае будаўніцтва, узводзяцца два дзіцячыя камбінаты — сады і яслі, а таксама паліклініка, прафілакторый з зонай адпачынку на беразе Дняпра. Будуць і новыя школы.

Яшчэ няма маладых гаспадынь камбіната — маладых ткачых шоўкаткацкага, але пра іх ужо думаюць, пра іх клапоцяцца.

І не трэба будзе ездзіць так далёка і на вучобу. Для гэтага ўжо будуецца прафтэхвучылішча з інтэрнатам, якое дасць прадпрыемству патрэбныя кваліфікаваныя кадры.

Вясна камбіната пачынаецца з восені. Пачынаюць злятацца першыя ластаўкі. Памочнік майстра Васіль Кучанкоў знаёміць з першымі: Галя Цішковіч — з Горацкага раёна, Валя Сазонава — са Шклоўскага, Таня Людагоўская — з Клімавіцкага, Марыя Цыкунова — з Магілёва.

Не толькі магіляўчанкі абралі для сябе месцам работы новы Магілёўскі камбінат. Тамара Прыходзька, Ніна Трызна і Валя Мазійка прыехалі сюды з Гомельшчыны, Ніна Сакалоўская і Рая Валаткевіч — з Брэстчыны, Валя Пашкевіч — з Міншчыны.

Так і хочацца ўспомніць славутых слуцкіх ткачых...

— Ёсць у нас і са Слуцка, — смяюцца дзяўчаты, — толькі не прыехалі яшчэ з практыкі.

— Будзе цэлы шматнацыянальны букет, — заўважае начальнік тэхаддзела Аляксандра Міхайлаўна Кабанава. — Але ў пераважнай большасці — магіляўчанкі, беларусачкі...

Магілёўскія ткачыхі!

Пройдзе час, і пра іх спяюць песні, напішуць паэмы і раманы, можа, і яны самі, бо цяпер у рабочы клас уліваецца ўсё больш адукаваная моладзь. Само паняцце — магілёўскія ткачыхі — у недалёкім часе стане сінонімам маладосці, прыгажосці, зайграе ўсімі колерамі вясёлкі, як і шоўк, вытканы іх рукамі.

Камбінат разлічаны на выпуск шырокага асартыменту сарочнаблузачных, плацельных, касцюмнаплацельных тканін з поліэфірнага шоўку, тыпу крымплен, яшчэ недастаткова асвоенага нашай прамысловасцю, падкладачных тканін з віскозна-ацэтатнага шоўку. Аддзелачная вытворчасць разлічана як на выпуск гладкафарбаваных, так і набіўных тканін. Мабыць, няма ў свеце дзяўчыны, якой не хацелася б быць прыгожай, і прыгажосць гэтую будуць рабіць дзявочыя рукі, дакладней жа кажучы, высокапрадукцыйныя аўтаматычныя машыны пад дзявочым наглядам. Нават у працэсе навучання маладыя ткачыхі асвойваюць адначасовую работу на 10—12 ткацкіх станках. 364 бесчаўночных і 2 624 пнеўматычных — столькі станкоў адразу дае на ўзбраенне магілёўскіх ткачых камбінат. А ён жа таксама будзе расці разам са сваімі ткачыхамі, бо ў наш час ніхто і нішто не стаіць на месцы.

Магілёўскі шоўк!

Разматвай свае рулоны да касмічных велічынь, бо сто тысяч кіламетраў (кіламетраў!) — гэта толькі заяўка на атэстат сталасці.

Не ляціце, ластаўкі, у вырай. Каля родных гнёздаў толькі пачынаецца лета.

**Іван ДАБРАНСКІ.**

■■■



# БУЙНІЧЫ — МАЯ АКАДЭМІЯ



Сарамліва-збянтэжаная, са шчасліва-разгубленай усмешкай на вуснах, Валя Гарбачова выглядала маладзей за свае васемнаццаць гадоў. Зусім дзяўчынка-школьніца! Апрані белы фартушок з каўнерыкам, павяжы на коскі капронавыя банцікі — васьмікласніца, дый годзе! Бадай, і веры ніхто не дасць, што перад ім — чэмпіёнка рэспублікі па... ворыве. Яна, мусіць, і сама яшчэ добра не ўсведамляла ўсяго, што адбылося, верыла і не верыла ў тое, што гэта ў яе гонар грыміць музыка, што віншуюць яе і ўручаюць падарункі менавіта ёй, Валі, і адно шчасліва-збянтэжана ўсміхалася, ад хвалявання кусаючы вусны, не ведаючы, куды падзець рукі, каму аддаць ці куды палажыць от гэтыя прыціснутыя да грудзей падарункі. Апамяталася крыху пасля, калі аціхлі музыка і воплескі, калі апынулася ў цёплых абдымках сябровак — нядаўніх супернік. Значыць, усё праўда, яна — першая, яна — чэмпіёнка! Думкі ў галаве паплылі раўней (падумала пра тое, як узрадуецца гэтай вестцы бацька, таксама трактарыст), толькі сэрца ўсё яшчэ тахкала моцна і гулка — ажно, здавалася, іншым чутно. Да яе падыходзілі знаёмыя і незнаёмыя людзі, паціскалі руку, віншавалі, гаварылі добрыя, прыемныя словы. Яна ў адказ моўчкі ківала галавой, нібы не ведаючы, што ў такіх выпадках трэба казаць, ці не рашаючыся сказаць што-небудзь. Толькі аднойчы, калі хтосьці, хутчэй за ўсё жартам, спытаўся, дзе гэта яна навучылася так хораша і разумна кіраваць сталёвым канём, якую такую акадэмію скончыла, Валя ціха, але зусім сур'ёзна адказала:

— Буйнічы — мая акадэмія...

## ДВАЦЦАЦЬ ТЫСЯЧ

Яшчэ толькі-толькі пачыналася вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — быў самы пачатак памятнага для нас сорак чацвёртага. Той парою сустрэліся ва ўжо ачышчаных ад акупантаў Касцюковічах нядаўні камісар партызанскага атрада Аляксандр Львоў і дэмабілізаваны са шпіталю франтавік Мікалай Верам'ёў. Не ведалі, пэўна, і не думалі яны тады, што лёс і агульная справа звяздзе-звяжа іх на доўгія-доўгія гады, зараз ужо можна сказаць — назаўжды.

...Надышла вясна. Савецкая Армія рыхтавалася да рашучага наступу па канчатковым ачышчэнні роднай зямлі ад гітлераўскай пагані. Да лініі фронту падцягваліся новыя сілы, групаваліся ў магутны ўдарны кулак. Ды тут, у прыфрантавой паласе, ва ўсходнім куточку ўжо вольнай, зноў Савецкай Магілёўшчыны, адбываліся не толькі ваенныя прыгатаванні. Людзі, ацалелыя за доўгую ноч фашысцкай акупацыі, браліся за ладкаванне мірнага жыцця. Знявечаная і спу-

стошаная зямля клікала да сябе, прасіла людской помачы і ласкі. І, нібы ў адказ на гэты покліч вясновай зямлі, у Касцюковічах па рашэнні партыі і ўрада рэспублікі ў сакавіку сорак чацвёртага ствараецца Магілёўскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Непасрэднымі арганізатарамі і кіраўнікамі яго сталі А. Львоў і М. Верам'ёў.

У Касцюковічах, аднак, вучылішча працавала нядоўга — усяго нейкага паўгода. Ці то апраўдваючы сваю назву — Магілёўскае, ці то ўслед за нашымі войскамі, якія нястрымна гналі фашысцкую нечысць на захад, вучылішча ў пачатку жніўня таго ж года перабралася ў Магілёў. Але і тут яно затрымалася на кароткі час. Зубастаму калёснаму ХТЗ было дужа няўтульна на гарадскім бруку. Вучылішча — сельскае, значыцца, да зямлі, да поля павінна быць бліжэй. І ў самым пачатку сорак сёмага школа сельскіх механізатараў спраўляе чарговае, на гэты раз апошняе наваселле: перазджае ў вёску Буйнічы, што пад Магілёвам. Мясціна на высокім і крутым дняпроўскім беразе аказалася шчаслівай і для вучылішча, і для навучэнцаў, хоць, па праўдзе кажучы, напачатку шчасця таго і малавата было.

Даўно, а як для маладзейшых пакаленняў, то і вельмі даўно, быў у Буйнічах панскі маёнтак. Багаты, заможны, з неблагімі па тым часе дамамі і гаспадарчымі пабудовамі. Пасля рэвалюцыі ў маёнтку арганізавалася камуна, пазней — спецыяльная падсобная гаспадарка. У часе гітлераўскай акупацыі з тае гаспадаркі карысталіся эсэсаўцы, што сядзелі ў Магілёве. Уцякаючы, яны знішчылі ў Буйнічах усё, што можна было. На ўсёй сядзібе нейк утрываў ад агню толькі цагляны кароўнік. От сцены таго колішняга панскага кароўніка і прытулілі першых навучэнцаў. Яно, калі праўду казаць, то і не зусім першых, бо яшчэ да Буйніч вучылішча зрабіла ці не два выпускі, але, азіраючыся на той час з сёння, можна без аніякіх нацяжак назваць першымі выпускнікоў сорак сёмага года.

Цяжка даводзілася і настаўнікам, і навучэнцам. Тры невялічкія вучэбныя класы, два калёсныя трактары-няўклюды, прычапны камбайн, ушчэнт растрэсены па франтавых дарогах аўтамабіль «ГАЗ-АА», пяток сельскагаспадарчых прылад — от і ўся, так сказаць, матэрыяльная ці, дакладней, вучэбна-вытворчая база вучылішча. А да ўсяго і холад прылучаўся, і голад.

Ды, не зважаючы на цяжкасці, жыло вучылішча, працавала і штогод выпускала кваліфікаваных механікаў МТС, электрамеханікаў, трактарыстаў, брыгадзіраў трактарных брыгад, слесараў-рамонтнікаў.

Душою калектыву, «непадзарадным акумулятарам творчай энергіі» быў дырэктар Львоў. Яго і зараз, амаль праз трыццаць гадоў, называюць у вучылішчы гэтак жа, гавораць пра яго з ранейшай любоўю і павагай. У ягоным лёсе адбіўся і лёс вучылішча, хоць можна сказаць і наадварот. З маладога энтузіяста, якім быў у сакавіку сорак чацвёртага партызанскі камісар Саша Львоў, за мінулыя з таго часу гады вырас дасведчаны і вопытны кіраўнік, заслужаны настаўнік прафтэхадукацыі рэспублікі Аляксандр Вісарыёнавіч Львоў, чалавек з двойчы вышэйшай — агранамічнай і педагагічнай — адукацыяй. Вырасла, непазнавальна змянілася і вучылішча. Кароткатэрміновыя курсы механізатараў ператварыліся ў сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, а колькі гадоў назад — у сярэдняе. Яго выпускнікі разам з прафесіяй пачалі атрымліваць і атэстат сталасці. У 1967 годзе за вялікія поспехі ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў для работы ў сельскай гаспадарцы вучылішча было ўзнагароджана ордэнам, і зараз яго поўная ганаровая назва гучыць так: Магілёўскае ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга сярэдняе сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 1.

Лічбы, мажа, і не самы красамоўны доказ поспехаў Буйніцкай «акадэміі», аднак некаторыя ўсё ж хочацца назваць.

Дваццаць тысяч... Столькі выпускнікоў сёння на рахунку вучылішча. Амаль дваццаць тысяч трактарыстаў, камбайнераў, шафёраў, электраманцёраў, слесараў-рамонтнікаў, механізатараў жывёлагадоўчых ферм падрыхтавана за мінулыя гады ў Буйнічах. Многія з іх дадалі сваёй самаадданай, старанннай працай добрай славы роднаму вучылішчу і панеслі яе далёка і шырока.

Героі Сацыялістычнай Працы брыгадзіры трактарных брыгад Соф'я Юргель і Мікалай Рудэнка, трактарыст Мікалай Пускін і камбайнер Васіль Каралёў, чые імёны вядомыя ўсёй рэспубліцы,— колішнія выпускнікі вучылішча ў Буйнічах.

Больш чым трыццаць былых навучэнцаў узнагароджаны ордэнам Леніна і каля паўтары тысячы — іншымі ордэнамі і медалямі краіны. І, пэўна ж, зусім недарэмна ў Буйнічах лічаць, што ордэн на сцягу вучылішча — з гэтага ж яркага сузор'я працоўных адзнак яго выпускнікоў.

Дзе толькі зараз ні працуюць былыя хлопцы і дзяўчаты, што колісь бегалі ў сініх камбінезонах па вуліцах Буйніч! Сустрэнеш іх і на Далёкім Усходзе, і на казахстанскай цаліне, на Украіне, на Смаленшчыне, Браншчыне.

Намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Мікалай Міхайлавіч Верам'ёў (як і для Львова, вучылішча стала родным і для яго) расказваў:

— Надарылася неяк быць у Гомелі. Іду вуліцаю, ажно чую—хтосьці гукае: «Мікалай Міхайлавіч!..» Азіраюся — мужчына, маладжавы такі, бравы, да мяне падыходзіць. «Не пазнаяце?» Гляджу на яго. Нешта знаёмае як быццам і ўгадваецца, а не пазнаю. «Леўкавец я, кажа, памятаеце?» Як жа, кажу, не помніць! Пецька Леўкавец. Смяецца. «Точна», кажа. Пастаялі, пагаманілі. Абласную «Сельгастэхніку» ўзначальвае сёння наш былы Пецька Леўкавец...

Мікалай Міхайлавіч, кажучы гэта, чамусьці ўздыхае, а па твары ягоным блукае ласкавая, самотна-стомленая ўсмешка. Заўважаў яе, гэтую ўсмешку, калі заходзіла гаворка пра яго колішніх гадаванцаў, неаднойчы. Расказвае, прыгадвае прозвішчы, імёны, якіясьці малазначныя, але, пэўна, дарагія яго сэрцу дробязі, а па твары ўсё блукае і блукае ледзь улоўная — у куточках вуснаў, у зморшчынках вакол вачэй — усмешка. Думалася: так прыгадваюць бацькі сваіх дзяцей...

Але найбольш колішніх навучэнцаў вучылішча, вядома ж, на роднай Магілёўшчыне. У многіх гаспадарках тут склаліся з іх цэлыя вытворчыя калектывы. Вось калгас імя Дзяржынскага Магілёўскага раёна, падшэфная, калі так можна сказаць, гаспадарка вучылішча. Старшыня калгаса Пятро Разумнікаў, намеснік старшыні і сакратар парткома Анатоль Шмань, брыгадзір трактарнай брыгады Эдуард Альшэўскі, калгасны інжынер Пятро Красоўскі — усе былыя навучэнцы Буйніцкага СПТВ. Тут жа, у Буйнічах, набылі прафесію шаснаццаць калгасных трактарыстаў і шэсць камбайнераў.

Тое ж самае — у калгасах «Светлы прамень» і імя Заслонава: літаральна ўсе калгасныя механізатары вучыліся ў Буйнічах.

Нядаўна скончыў вучылішча Уладзімір Раманаў з калгаса «Беларусь», а ўжо ці не лепшым механізатарам у гаспадарцы лічыцца. Нездарма ж маладога хлопца аднавяскоўцы абралі дэпутатам раённага Савета. А ў калгасе «Камінтэрн» добрая слава ходзіць пра трох братоў Шамбалавых — Пятра, Аляксандра і Уладзіміра. Прафесіі сельскіх механізатараў яны таксама набылі ў Буйнічах.

Былыя навучэнцы памятаюць роднае вучылішча, заўжды з павагай і ўдзячнасцю ўспамінаюць сваіх настаўнікаў і выхавацеляў. Дзесяткі, сотні пісем прыходзяць у Буйнічы. От такіх, як гэтае, прысланае нядаўнім выпускніком Міхаілам Волкавым: «Зараз я служу ў арміі. Нядаўна мне прысвоілі званне сержанта, і я цяпер камандзір аддзялення. Знаходжуся на пасадзе электрыка. Мне вельмі спатрэбіліся веды, атрыманыя ў вучылішчы. Я надзвычай удзячны ўсім маім настаўнікам, якія ўзбагацілі мяне ведамі і ўвогуле дапамаглі мне стаць чалавекам...»



У лабараторыі аўтамабіляў і дарожнага руху. Выкладчык Канстанцін Аляксеевіч Дземідовіч са сваімі выхаванцамі Грышам Ушаковым, Анатолем Пракопавым і Іванам Грыгор'евым.

## ТЫСЯЧА

Роўна а палове дзевятай ля вучэбна-лабараторнага корпуса выстройваюцца на ранішнюю паверку ўсе навучэнцы. Дзяжурны па вучылішчы аддае рапарт

дырэктару, майстры груп робяць пераклічку, правяраюць гатоўнасць сваіх выхаванцаў да заняткаў. Тут жа разбіраюцца розныя ЧП, аддаюцца загады і распараджэнні. А ў дзевяць звычны, зусім школьны званок апавяшчае аб пачатку заняткаў, і амаль тысяча юнакоў і дзяўчат разыходзяцца па кабінетах, лабараторыях і фермах.

...Калісьці, гадоў пятнаццаць назад, давялося мне быць у адным вучылішчы механізацыі сельскай гаспадаркі. Каля сотні юнакоў цяснілася ў трох не вельмі прасторных класах, пад паветкаю стаяла некалькі трактароў, камбайн, пара сеялак, пяцікорпусны плуг — вось што, бадай, уяўляла сабой тое вучылішча. Тады здавалася: а што яшчэ трэба? Абы асвоілі хлопцы трактар. Падвучацца крыху, папрактыкуюцца — от табе і механізатары.

Разумею, канечне, што было тое даволі-такі даўнавата — ажно паўтара дзесятка гадоў назад, што гады гэтыя былі для нас імкліва-зменлівыя ва ўсім, і ўсё ж, прызнаюся, ехаў я ў Буйнічы з пэўным, няхай сабе і невялікім, цяжарам тых ранейшых, пятнаццацігадовай даўнасці, уражанняў і ўяўленняў. Рабіў, вядома, папраўку на час, на тое, што ў Буйнічах не проста вучылішча механізацыі, а сельскае прафесійна-тэхнічнае, да таго ж яшчэ і сярэдняе, аднак жа думалася: як бы там ні было, рыхтуе яно ўсё тых жа трактарыстаў-камбайнераў.

Ах, як жа падводзіць часам нашага брата-журналіста гэты колішні запас ведаў і ўражанняў, як нельга нам адставаць ад жыцця не то што на год, а нават на адзін дзень!

Бо вось жа — тыя самыя Буйнічы. Пачыналася вучылішча, як і згаданае мною, з трох невялічкіх класаў-пакояў у былым панскім кароўніку, а сёння яно мае 17 вучэбных кабінетаў для тэарэтычных заняткаў па спецыяльных і агульнаадукацыйных дысцыплінах і 15 лабараторый для практычных заняткаў. Вось-вось прыме навучэнцаў (цяпер, у снежні, пэўна, прыняў ужо) новы трохпавярховы вучэбны корпус. Для вучэбных мэт і практычных заняткаў вучылішча мае 72 трактары самых розных марак, 28 аўтамабіляў, 18 збожжавых і іншых спецыяльных камбайнаў, комплекс машын па механізацыі працаёмкіх працэсаў у жывёлагадоўлі, дзесяткі іншых сельскагаспадарчых машын і механізмаў. Практычныя навыкі навучэнцы замацоўваюць на палях вучэбнай гаспадаркі (540 гектараў) і на ферме (180 галоў буйной рагатай жывёлы, 450 свіней, 80 авечак).

Уражваюць ужо нават гэтыя лічбы — самі па сабе. А калі зазірнуць у кабінеты і лабараторыі? Яны абсталяваны па апошнім слове тэхнікі. Амаль у кожным кабінеце — комплексны набор сродкаў тэхнічнага навучання — ад магнітафонаў, кінапраектараў, аўтаматычных плакатніц і магнітных дошак да электронікі. І ўсё гэта зроблена ў самім вучылішчы, рукамі выкладчыкаў і навучэнцаў у шматлікіх гуртках тэхнічнай творчасці, якія працуюць пры кожным кабінеце.

Пасля знаёмства з вучылішчам я глыбей зразумеў скупыя радкі пісьма Міхаіла Волкава, якія цытаваў вышэй. Удзячнасць, якую былы навучэнец выказваў сваім настаўнікам,— не простая ветлівасць. Многія выкладчыкі вучылішча — сапраўдныя энтузіясты, улюбёныя ў свой прадмет, адданыя любімай справе да канца. Можна было толькі здзіўляцца, назіраючы, з якой апантанасцю і самаадданасцю праводзяць яны доўгія пасляўрочныя гадзіны ў кабінетах у акружэнні сваіх юных памочнікаў, штосьці выпільваючы, свідруючы, склейваючы, шліфуючы, манціруючы.

Мікалай Міхайлавіч, хаваючы пад шкельцамі акуляраў стомленую ўсмешку вачэй, не без гордасці гаварыў:

— Іншы не затрымаўся б у вучылішчы. Чалавеку без творчага пачатку, без унутранага гарэння ў нас няма чаго рабіць. Атмасфера спаборніцтва, сяброўскай узаемадапамогі — наша галоўная заваёва. Мы даўно перайшлі на кабінетную сістэму навучання. Па сутнасці, кожны выкладчык мае свой кабінет. З'явілася якая-небудзь навінка ў аднаго — глядзіш, праз некаторы час яна ўжо ў другога, трэцяга, і не слепа паўторана, а ўдасканалена, зроблена па іншай, прынцыпова новай схеме...

А пад час іншай гаворкі Верам'ёў расказваў:

— Ці не цікавая, як для вас, журналістаў, будзе такая дэталь? Многія нашы выкладчыкі — нашы ж былыя выхаванцы. Станіслаў Іванавіч Дубоўскі, напрыклад. Выкладае механізацыю працаёмкіх работ у жывёлагадоўлі. Пасля вучылішча застаўся ў нас, завочна скончыў Пінскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. Выкладчык электратэхнікі Аляксандр Паўлавіч Бокуць — таксама наш... Ну, а майстры вытворчага навучання дык амаль усе нашы, дамарошчаныя. І многія з іх сталі цудоўнымі выкладчыкамі і выхавацелямі. Вазьміце Івана Рыгоравіча Кавалёва, да прыкладу. Тры гады назад прыняў групу — 31 чалавека і выпусціў усіх да аднаго. Без адзінага ЧП. Усе паспяхова здалі экзамены. Альбо вось старшы майстар Павел Мікалаевіч Палавой. Выпускнік нашага першага набору. Пасля скончыў курсы шафёраў, працаваў, зноў вучыўся ў нас — на механіка МТС. Запрасілі ў вучылішча на працу. Быў майстрам, выкладчыкам спецдысцыплін. Апошнія пятнаццаць гадоў — старшы майстар, галава ўсяго вытворчага навучання. За гэты час Павел Мікалаевіч скончыў тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі... Вось, можа, і адсюль іх апантанасць, як вы кажаце. Ад родных сцен, так сказаць...

«Дэталь», аказваецца, сапраўды цікавая!





Група № 13 на занятках у лабараторыі трактароў. На першым плане навучэнцы Мікалай Альшэўскі, Васіль Сашкоў і Аляксандр Вераб'ёў за разборкай паліўнага насоса.

Не бяднейшая ў вучылішчы і культурна-бытавая база. Ёсць пяціпавярховы інтэрнат на 500 месц, клуб — на 400, бібліятэка з 50 тысячамі кніг, закрыты спартыўны комплекс з трыма заламі, стадыён, стралковы цір, вучэбна-спартыўны летні лагер, сталовая, лазня.

Карацей кажучы, для тысячы сённяшніх навучэнцаў у СПТВ створаны ўсе ўмовы, каб яны пакінулі сцены вучылішча высокакваліфікаванымі спецыялістамі і дасведчанымі, духоўна і фізічна развітымі людзьмі. Многія, несумненна, з поўнай аддачай скарыстаюць гэтыя магчымасці і, як Валя Гарбачова, назавуць аднойчы роднае вучылішча сваёй акадэміяй.

І апошні штрых да сённяшняга вобліку Магілёўскага СПТВ № 1. За дасягнутыя поспехі ў падрыхтоўцы кадраў яно неаднойчы было ўдзельнікам ВДНГ, займала першыя месцы ў сацыялістычным спаборніцтве сярод вучылішчаў прафтэхадукацыі краіны і рэспублікі.

## ТРЫЦЦАЦЬ І АДЗІН

Шыракаплечы, рослы і, па ўсім відаць, дужы, паважна-павольны ў руках, Іван Аляксандравіч Рыжанкоў адразу прыцягвае ўвагу. Знаёмімся. Далонь у яго шырокая, па-рабочаму шурпатая і... цёплая. Пагляд вачэй немітуслівы. І гаворыць гэтак жа спакойна, нават крыху марудліва. Так гавораць людзі, якія добра ведаюць, што робяць сваю справу, якія ходзяць па зямлі з усведамленнем сваёй патрэбнасці на гэтым свеце.

— Што ж тут казаць? Праз мае рукі прайшло ўжо больш чым чатырыста гэтакіх падшыванцаў. Вядзеш групу да выпуску, зжываешся з кожным, зроднішся — як свае нібыта. Выпускаеш, а не верыш, што назаўжды развітваешся. А тут іншыя прыходзяць, і зноў пачынай усё спачатку. Асабліва цяжка першы год. Пакуль абаб'юцца-абатруцца, да калектыву, да распарадку прывыкнуць, дурасліваць ды дзіцячую бяздумнасць з галавы выкінуць...

А перад гэтым Рыжанкоў расказваў пра сябе. Родам са Шклова. Пасля сямігодкі пайшоў у райпрамкамбінат — пасабляць маці. Потым махнуў у Магілёў, у рамеснае вучылішча кавалёў. Вучылішча — двухгадовае, ды правучыўся ўсяго год: у 1954 годзе трапіў Іван Рыжанкоў у Буйнічы, у тымчасовае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Скончыў яго з адзнакай і нікуды з Буйніч не паехаў — прапанавалі застацца ў вучылішчы майстрам вытворчага навучання. З тае пары і ходзіць у майстрах. Дзесяць класаў скончыў, затым — Гарадоцкі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі. Мае званне «Заслужанага майстра прафтэхадукацыі БССР».

Ужо з гэтых скупых анкетных даных відаць, чаму Іван Аляксандравіч вельмі добра разумее сваіх гадаванцаў і ўсім, чым можа, стараецца дапамагчы ім стаць на ногі, знайсці сябе. Асабліва на самым пачатку. Разумее, бо сам прайшоў праз тое самае, бо памятае, ніколі не забудзе тых людзей, што калісьці памаглі, падтрымалі яго самога.

— Ага, дык я і кажу. Галоўнае — пер-

шы год,— гаворыць далей Рыжанкоў.— Да іх саміх прыглядаешся, натуру кожнага вывучаеш, хто чым жыве, да чаго хінецца, цікавасць праяўляе. Важна знаць і бацькоў, бо і добрае, і кепскае ў дзяцей — найперш ад бацькоў, ад сям'і. Пазнаёмішся з бацькам каторага, і ўсё зразумела для цябе, чаму сынок такі ўдаўся. А на іншага бацьку — абапрэшся. А як жа! Колькі разоў даводзіцца і сюды бацькоў выклікаць, і самому ездзіць, калі катораму бацьку не выпадае пад'ехаць.

— Колькі ў вас зараз?

— Трыццаць. Другакурснікаў. Група ўвогуле неблагая. Ёсць і шалапуты, але актыў — створаны. Без актыву бяссільны будзеш. Дзеці ў многім яшчэ. А дзеці завадатараў любяць. От і стараешся, каб такім завадатарам актыў стаў. Яшчэ што, дык гэта шчырасць. Узаемная. Па-добраму, па-чалавечы з імі, дык і яны ўсё выкладуць, усю душу вывернуць. Ну, але тады і ты іх не падводзь. Бо раз сарвешся — усё *прапала*, чаго паспеў дамагчыся.

Майстар — самая неспакойная і турботлівая пасада ў вучылішчы. Ён і настаўнік, і выхавацель, і нянька. Так, і нянька. Ці пад'еў хлопец, ці быў у лазні, чаму своечасова не падстрыгся, чаму бялізны цёплай не надзеў — яго, *майстраў, клопат*.

— І за гэтым трэба сачыць. Маці ж ці бацька далёка. Ды гэта — не клопат. Вучоба — от клопат. У мяне завядзёнка — кожны дзень зазірнуць у журнал групы, каб ведаць, хто як вучыцца і па спецпрадметах, і па агульнаадукацыйных. Каб не прапускалі і не запускалі. Ну, а ЧП *якое* — на суд групы. Самы надзейны сродак. Так званыя адміністрацыйныя пакаранні часам таго не дакажуць. Самых заўзятых прагульшчыкаў ці гультаёў падчас пазбаўляем стыпендыі. Я асабіста супраць такой меры.

Рыжанкоў колькі часу маўчыць, потым, нібы схамянуўшыся ад якіхсьці сваіх думак, спахопліваецца:

— Ды што я гэта ўсё пра адно і пра адно?.. Яно ўсё важна, але найперш — *трэба* заняць хлопцаў. Энергіі ў іх — уга, хоць адбаўляй! Узрост такі. Нагрузка — не, не малая, амаль штодня — восем гадзін заняткаў, і ўсё ж трэба ўмець іх заняць карыснай справай. Ці то гурток тэхнічны, ці секцыя *спартыўная*, ці *самадзейнасць* там, адно каб без справы не швэндаліся...

Пазней, калі празвінеў званок і рыжанкоўская група (група 6т, дзе лічба 6 азначае парадкавы нумар, а літара «т» — трактарысты) збіралася ісці абедаць, я гутарыў з гадаванцамі Івана Аляксандравіча. Сімпатычныя, мо нават занадта сарамліва-ціхія (як з чужым чалавекам?) падлеткі. Пытаюся, чаму прыйшлі вучыцца менавіта сюды.

— А што? Чым блага? — парушае доўгае маўчанне Валянцін Стахоўскі.— І спецыяльнасць буду мець, і атэстат.

— А сам адкуль?

— З Магілёва.

— З самога?

— Ага.

— І ў сельскае вучылішча?

— А як сельскія хлопцы ідуць у гарадскія?!

Бач ты яго, падкузьміў! Што на гэта адкажаш?

— А больш ёсць хто з горада?

— Няма, Валя адзін.

*Астатнія свой прыход у вучылішча тлумачаць тымі ж прычынамі, што і Стахоўскі: спакусіла магчымасць мець спецыяльнасць (трактарыст-машыніст шырокага профілю з кваліфікацыяй слесара па рамонце трактараў, аўтамабіляў і шафёра-аматара) і сярэднюю адукацыю. Аднак высвятляюцца і іншыя, бадай, унутраныя, скажам так, прычыны.*

Вось Коля Шылько. Прыехаў аж з Рагачоўскага раёна, з саўгаса «Кісцяні». Правільней, як сам кажа, не прыехаў, а бацька прывёз. Аказваецца, яго бацька, *саўгасны трактарыст, сам калісь вучыўся тут, у Буйнічах.*

Тое ж і ў Валерыя Ерафеева з калгаса «Камінтэрн» Магілёўскага раёна. Бацька яго, калгасны шафёр, набываў прафесію таксама ў Буйнічах.

Мусіць, гэта зусім няблага, калі дзеці ідуць па слядах бацькоў. Думаецца, што *і з Колі Шылько, і з Валерыя Ерафеева* атрымаюцца сапраўдныя, ужо можна сказаць, патомныя сельскія механізатары. Дарэчы, прыклады такіх сямейных традыцый ёсць у кожнай вучэбнай групе.

— Ну, а як жывяце, хлопцы, як вучыцеся?

— *Добра жывём!*

— Не крыўдзімся ні на харчы, ні на выкладчыкаў!

— Спортам займаемся! Барацьбой!

— Цікавей, чым у школе!

— *Але цяжэй!*

— Не цяжэй! Галаву трэба мець, а не качан капусты!

— *Я ў драмгуртку займаюся!*

— Баця ў нас жалезны! Строгі, але справядлівы!

Апошнюю рэпліку разумею пасля тлумачэння: яна — пра майстра, пра Івана Аляксандравіча.

Асмялелі хлопцы, ужо і на жарты іх пацягнула, аж пакуль староста групы Грыша Гузялевіч не прыкрыкнуў:

— Ціха вы! З вамі па-сур'ёзнаму, а вы...

Вясёлай, зусім дзіцячай гурбой бягуць у сталовую...

## ТРЫ

У вучылішчы, само сабой, пануе хлапечы дух, але ёсць тут і дзяўчаты. І быццам нямала. Прыблізна кожны дзесяты навучэнец — у спаднічцы. Хлопцы, натуральна, адчуваюць сваю колькасную перавагу, але, зазвычай, не ганарацца гэтым і сваіх нямногіх — у параўнанні — сяброўак не крыўдзяць. Наадварот: рыцарнічаюць.

Пра гэта мне расказвалі самі дзяўчаткі. У прыватнасці, тры сяброўкі — Наташа Жураўлёва, Тамара Насытка і Аня Несцерава.

Наташа, Тамара і Аня — з групы 14м («м» азначае — механізатары жывёлагадоўчых ферм з кваліфікацыяй электраманцёра і шафёра-аматара). Стрэў я іх у лабараторыі электрамантажных работ. Лабараторыя пераабсталёўваецца: манціруецца пульт упраўлення для выкладчыка, аснашчаюцца рабочыя месцы навучэнцаў, і дзяўчаты наводзілі тут парадак, рыхтавалі да работы папяровыя карткі-заданні.

Спачатку, як і з хлопцамі, гаворка не клеіцца. Адказваюць дзяўчаткі коратка, ледзь не аднаскладова:

— Вучыцца тут цікава.

— Ага, уся група дзявочая.

— Не, не сумуем.

— Не, не шкадуем...

— Ну, а хлопцы вас не крыўдзяць? — пытаюся, каб нейк пазбавіцца адчужанасці, выклікаць на шчырасць.

Усміхаюцца. Найбольш бойкая, Наташа Жураўлёва, адказвае за ўсіх:

— Не, не крыўдзяць. Памагаюць нават, калі што ў нас не атрымліваецца.

Слова за слова — дзяўчаткі разгаворваюцца. Прыехалі яны — усе тры — з вёскі Навасёлкі Магілёўскага раёна. Гэтая акалічнасць для іх немалаважная.

— Адна то, можа, і не рашылася б паехаць сюды,— гаворыць Наташа,— а ўтраіх смялей. Але не, і адна паехала б. Вучылішча я і раней крыху ведала. Брат мой, Саша, тут вучыўся, цяпер ён у арміі... Скончу і думаю ў тэхнікум пайсці. Механізацыі сельскай гаспадаркі. Пасля вучылішча лягчэй будзе вучыцца.

— І я з Наташай разам,— падхоплівае Тамара.— У мяне тата тут вучыўся. Рабіў трактарыстам, але здароўе пагоршылася, дык цяпер у калгаснай будаўнічай брыгадзе.

— Ну, а ты? — пытаюся ў Ані.

— Я пасля вучылішча дадому паеду,— адказвае.— Да мамы. Мама мая ў нашым «Светлым прамені» цялятніцай. Пайду да яе на ферму. І мне работа знойдзецца...

Жывуць сяброўкі ў вучылішчы цікавым, змястоўным жыццём. У вольны час захапляюцца валейболам, лёгкай атлетыкай, бегаюць у клуб: Аня — у драматычны гурток, а Наташа з Тамарай — на занятні вакальнага ансамбля.

...Вучыцца дзяўчаткам яшчэ, лічы, два гады, але, мяркуючы па іх цвёрдых намерах і планах, можна думаць, што Наташа, Тамара і Аня не памыліліся ў выбары свайго жыццёвага шляху.

## ПРА ТОЕ, ШТО ПАДЛІЧЫЦЬ ЦЯЖКА

У Буйнічах быў я ў сярэдзіне верасня. Ужо два тыдні ішлі заняткі, але навучальны працэс усё яшчэ не ўвайшоў у звычную, нармальную каляіну. Вучылішча ўсё яшчэ трэсла, груба кажучы, ліхаманка.

І так — кожны верасень. Кожны раз пачатак новага навучальнага года ў вучылішчы адцягваецца, па сутнасці, на два-тры тыдні. Прычына — самая празаічная: цяжкасці з наборам, з так званай камплектацыяй.

Некалькі гадоў назад у вучылішчы было створана новае аддзяленне — радыстаў-аператараў. Рыхтуе яно (на базе 10 класаў, тэрмін навучання — 1 год) спецыялістаў для абслугоўвання саўгасных і калгасных радыёдыспетчарскіх



Вакальны ансамбль дзяўчат. У ім спяваюць Наташа Жураўлёва і Тамара Насытка.

службаў. Ахвотнікаў вучыцца на гэтым аддзяленні шукаць не трэба, чаго не скажаш пра аддзяленні трактарыстаў-машыністаў і механізатараў-жывёлаводаў.

Нельга сказаць, што ў Буйнічах не клапоцяцца аб тым, каб першага верасня за парты села пэўная, вызначаная планам колькасць навучэнцаў-навічкоў. Робіцца ў гэтым кірунку якраз шмат. Аб'явы аб прыёме ў вучылішча даюцца ў раённых і абласных газетах, перадаюцца па радыё, падрабязныя афішы рассылаюцца па раёнах, калгасах, нават школах. Аднак усё роўна прадстаўнікам вучылішча ў канцы жніўня—пачатку верасня даводзіцца гойсаць на аўтамашынах па раёнах і вёсках і нястомна «сватаць» —угаворваць, улагоджваць, упрошваць — выпускнікоў васьмігодак ехаць у Буйнічы.

З дапамогай такіх аўральных паездак план набору сяк-так, недзе к 10 верасня, выконваецца. Аднак радасці ў вучылішчы мала, бо сярод тых, каго ўдалося «сасватаць», нямала такіх, пра каго кажуць: на табе, божа, што нам нягожа. Найчасцей гэта безнадзейныя «троечнікі» альбо так званыя «цяжкія» вучні, знаёмыя з міліцыяй і камісіямі па справах непаўналетніх. Адны з іх праз колькі дзён заяўляюць: «Я са школы ад матэматыкі (хіміі, літаратуры) уцякаў, ажно і тут тое самае!» і едуць дадому, іншыя застаюцца, прыносячы настаўнікам, выкладчыкам і майстрам нямала клопатаў, хваляванняў, а то і душэўных пакут.

Зрэшты, агульнаадукацыйны ўзровень юнакоў і дзяўчат, якія прыходзяць у вучылішча, невысокі, і тут ёсць над чым задумацца работнікам нашай васьмігадовай школы. Намеснік дырэктара і выкладчыкі вучылішча гаварылі мне, што многія навучэнцы не ведаюць самых элементарных рэчаў, і таму амаль увесь першы год даводзіцца траціць на тое, каб «падцягнуць» іх хоць бы да нейкага мінімальнага ўзроўню, пасля якога можна ісці далей.

Канечне, у тым, што сельскае вучылішча сутыкаецца з цяжкасцямі пры наборы навучэнцаў, ёсць аб'ектыўныя прычыны. Працэс міграцыі вясковай моладзі ў горад працягваецца, і гэта не сакрэт. І вось вам парадокс: у ГПТВ — конкурсы, падчас нават значныя (прычым сярод жадаючых нямала вясковых юнакоў і дзяўчат), а ў СПТВ — недабор.

Мажліва, я памыляюся, мо гэта і не галоўная прычына таго, што ў сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, у дадзеным выпадку — у Магілёўскае № 1, навучэнцаў трэба звозіць. Можа быць, ёсць і іншыя прычыны. Можа быць, усё ж недастаткова шырока яно прапагандуецца і моладзь застаецца ў няведанні адносна таго, якіх спецыялістаў яно рыхтуе і якія ўмовы мае для гэтай падрыхтоўкі. Можа быць, ёсць тут віна і сярэдніх школ, якія чамусьці не спрыяюць таму, каб іх былыя васьмікласнікі ішлі ў СПТВ (за выключэннем, бадай, тых, важданіна з якімі агоркла за восем гадоў). Можа быць, ёсць у тым і наша агульная віна: не будзем утойваць грахі, даволі значная частка маладых людзей выходзяць са сцен васьмігодкі занадта інфантыльнымі, без акрэсленага разумення сваіх абавязкаў і жыццёвага прызначэння. Можа быць...

Відавочна, што набор навучэнцаў не павінен быць клопатам толькі самога вучылішча. Мікалай Міхайлавіч Верам'ёў гаварыў, праўда, што ў гэтай справе ім шмат дапамагаюць райкомы партыі і камсамола, упраўленні сельскай гаспадаркі райвыканкомаў. Аднак жа, зноў відавочна, дапамога гэтая павінна быць больш дзейснай і плённай, асабліва з боку райкомаў камсамола.

Урэшце, «дзявочае пытанне». Дзяўчаты ў вучылішчы, як гаварылася вышэй, ёсць. Займаюцца яны пераважна на аддзяленні механізатараў жывёлагадоўчых ферм. Аднак з кожным годам іх прыходзіць у вучылішча менш і менш. Чаму?

Відаць, пэўную шкоду ажыццяўленню лозунга «Дзяўчаты — на трактар!» прыносіць кансерватызм бацькоў: маўляў, не дзявочая гэтая справа. (Урэшце, так думаюць не толькі бацькі). Відаць, і сам гэты лозунг мы ў апошні час крыху занядбалі. Але галоўная прычына, відаць,—у адносінах, у стаўленні да дзяўчат-механізатараў, асабліва маладых, нядаўніх навучэнак, на месцах.

Вось што пачуў у Буйнічах. Тая ж Валя Гарбачова, чэмпіён рэспублікі, неўзабаве пасля ад'езду на работу ў родны калгас, што ў Чавускім раёне, з крыўдаю паведамляла ў вучылішча: сустрэлі яе без асаблівай радасці, трактар далі старэнькі. Бянтэжыла дзяўчыну і іншае: грубасць, нетактоўнасць, здзеклівыя пасмешкі трактарыстаў-мужчын.

Выпадак гэты, на жаль, не адзінкавы. Нямала дзяўчат, якія пакідалі вучылішча з гарачым жаданнем працаваць па абранай спецыяльнасці, неўзабаве развітваліся з трактарам ці камбайнам, не стрэўшы на месцы належнай увагі і падтрымкі.

...У Буйнічах — новы рабочы дзень. Вучацца, набіраюцца ведаў, гартуюцца ў практычнай рабоце будучыя спецыялісты сельскай гаспадаркі.

**Мікола ГІЛЬ.**

Фота **У. Фамічэнкі.**

■■■



# «КАБ СОНЦА ЗАСЛАНІЦЬ...»

Увесь свет з палёгкай уздыхнуў ад таго, што перыяд халоднай вайны ў апошні час пачаў змяняцца ўсё больш шырокім усталяваннем прынцыпаў мірнага суіснавання ў адносінах паміж дзяржавамі. Усе, каму дарагія ідэалы міру і свабоды, аддаюць сёння даніну павагі Савецкаму Саюзу, яго паслядоўнасці і настойлівасці ў ажыццяўленні міралюбівай знешняй палітыкі, якая прывяла да такіх жаданых і плённых вынікаў.

Надзвычай важнае значэнне ў знешнепалітычных акцыях апошняга часу, па агульнаму прызнанню, мелі візіты Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева ў ЗША, ФРГ, Францыю. Яны аказалі значны ўплыў на развіццё працэсу разрадкі напружанасці, нармалізацыі міжнароднай атмасфары, усталяванне прынцыпаў мірнага суіснавання.

Аднак тыя, хто нажываецца на гонцы ўзбраенняў, для каго дух халоднай вайны—родная стыхія, ніяк не могуць пагадзіцца з пацяпленнем міжнароднага клімату, прыкладаюць нямала намаганняў для таго, каб вярнуцца да дзён «халоднай вайны». Але яны разумеюць, што гэта не так проста зрабіць, і таму ў апошні час захоплены планамі перанесці цяжар барацьбы найперш у сферу ідэалогіі, разгарнуць яшчэ ў большых памерах псіхалагічную вайну, падрыўную дзейнасць супраць Савецкага Саюза і краін сацыялістычнай садружнасці. Гэта, на іх думку, дасць магчымасць пахіснуць ідэйную і псіхалагічную аснову міру і бяспекі народаў.

Асаблівая роля ў ажыццяўленні намечаных планаў адводзіцца радыёстанцыі «Свабода»—гэтаму дзецішчу Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення. Паводле паведамлення газеты «Фолькштымe», ідзе арганізацыйная перабудова гэтага падрыўнога цэнтра імперыялізму, прымаюцца захады да расшырэння маштабаў і сферы яго дзейнасці. Вырашана пачаць перадачы на савецкія прыбалтыйскія рэспублікі. Ужо камплектуецца рэдакцыя, у абавязак якой уваходзіць арганізацыя антысавецкай прапаганды на Літву, Латвію, Эстонію. Створаны яўрэйскі радыёаддзел, які будзе рыхтаваць перадачы для яўрэяў—грамадзян Савецкага Саюза. Пераглядаецца аб'ём радыёперадач на савецкія рэспублікі, супраць якіх радыёстанцыя «Свабода» вяла і дагэтуль сваю падрыўную дзейнасць. На Беларусь аб'ём вяшчання даведзены да 10 гадзін 15 мінут у суткі.

Не застаўся абыякавы да арганізацыйнай перабудовы і далейшай дзейнасці гэтага ашкалёпка халоднай вайны ўрад ЗША. Ім падрыхтаваны законапраект аб стварэнні органа праўлення па міжнародным вяшчанні, які будзе кіраваць дзейнасцю радыёстанцый «Свабода» і «Свабодная Еўропа». У яго склад увойдзе 7 чалавек, 5 з якіх павінна быць назначана прэзідэнтам Злучаных Штатаў Амерыкі. Дырэктары абедзвюх радыёстанцый таксама ўвойдуць у склад праўлення. Урадавым законапраектам прадугледжана выдзеліць гэтым дзвюм радыёстанцыям на працягу 1974 і 1975 гадоў па 55 мільёнаў 300 тысяч долараў.

Пры гэтым ідэолагі імперыялізму яшчэ і фарысейнічаюць: маўляў, цяпер, як ніколі, патрэбен шырокі абмен думкамі, ідэямі, інфармацыяй. Газета ж «Вашынгтон пост», якую не западозрыш у сімпатыях да Савецкага Саюза, палічыла быць больш шчырай, заявіўшы ў адным са сваіх артыкулаў, што зараз, гэта значыць, у перыяд разрадкі напружанасці, «Свабода» і «Свабодная Еўропа» «больш важныя, чым раней. Іх перадачы, вядома, раўназначныя ўмяшанню ва ўнутраныя справы краін, на якія яны накіраваны, але мы ўсё ж будзем даказваць, што гэта ўмяшанне носіць зусім законны характар».

Аб крывадушнасці слоў афіцыйных асоб, якія хочуць апраўдаць далейшую падрыўную дзейнасць радыёстанцыі «Свабода», сведчыць інструкцыя, якая дадзена яе супрацоўнікам у ліпені 1973 года. У якасці адной з галоўных задач па-ранейшаму ставіцца дыскрэдытацыя палітыкі КПСС, яе праграмы, тэорыі і практыкі камуністычнага будаўніцтва ў СССР, распальванне ў савецкіх людзей нацыяналістычных пачуццяў.

Тыя, хто шчодра раскашэліўся, каб голас радыёстанцыі не маўчаў ні днём ні ўначы, хто вызначае характар і напрамак яе дзейнасці, даюць не толькі агуль-

ныя ўстаноўкі. Яны заклапочаны тым, як адшукаць шляхі і сродкі, з дапамогай якіх можна было б зрабіць сваю прапаганду, падрыўную дзейнасць эфектыўнай. Пра гэта сведчаць «Асновы кіраўніцтва па арганізацыі палітычных перадач радыёстанцыі «Свабода», якія сталі для яе работнікаў па сутнасці настольным дапаможнікам. У іх дадзены строгі наказ: «Захоўваць ва ўсіх перадачах сяброўскі тон у адносінах да слухачоў... Захаванне сяброўскага тону настолькі важна, што складальнікі праграм павінны ўяўляць сябе (кім вы думалі б?—**А. С.**) госцем у доме кожнага асобнага слухача...»

Што ж здарылася? Адкуль, чаму так нечакана паявілася, узнікла неадольнае жаданне любым чынам уціснуцца ў наш дом, ды яшчэ, бачыце, госцем? Ці даўно было тое, калі ў наш адрас сыпаліся праклёны, калі нас не спакушалі, а пагражалі і папярэджвалі? Кожны, хто ў савецкім друку выказваў заклапочанасць аб далейшым умацаванні савецкай дзяржавы, росквіце яе навукі, культуры, мастацтва, аб'яўляўся ледзь не заклятым ворагам «вольнага свету, свабоды, дэмакратыі». Пісьменнік, героі твораў якога былі носьбітамі новага светапогляду, змагарамі за ўсталяванне новых, камуністычных адносін, трапляў у «чорны спіс», адносіўся да катэгорыі дагматыкаў, партыйных пісьменнікаў, што на мове «Свабоды» азначала вышэйшую абразу.

І вось на́ табе: госцем у нашым доме! Такі нечаканы паварот, такая нечаканая «любоў», вядома, не ад дабра. Шэфаў радыёстанцыі не на жарт устрывожыў той факт, што дзесяткі мільёнаў долараў штогод марна вылятаюць у паветра—і ніякіх зрухаў у савецкім грамадстве, ніякіх перамен, ніякай аддачы.

Такім неспакоем ахоплены не толькі яны, але і кіраўнікі іншых прапагандысцкіх цэнтраў, якія вядуць падрыўную работу супраць СССР. Адзін з амерыканскіх тэарэтыкаў псіхалагічнай вайны Дэвіс у сваёй кнізе «Знешнепалітычныя зносіны» з жалем і горыччу гаворыць аб моцным імунітэце савецкіх людзей да бацыл буржуазнай прапаганды, аб тым, што згуртаванасць савецкага народа, сацыялістычная ідэалогія «зводзяць на нішто нашы старанні».

У «Асновах кіраўніцтва...» вызначаны не толькі мэты і задачы, але і характар перадач, іх напрамак, тэхналогія іх прыгатавання. «Клапатлівыя» шэфы прадугледзелі ўсё да дробязяў і, вядома, тое, з кім мець справу, на каго разлічваць, ідучы «госцем» у наш дом. Апошняму надаецца асабліваe значэнне, бо з аналізу насельніцтва нашай краіны, яго класіфікацыі па групах і пачынаецца гэты ўнікальны дакумент, распрацаваны з дапамогай «ідэалагічных» экспертаў ЦРУ.

Каго ж рэкамендуецца мець на ўвазе? У першую чаргу—моладзь. «Гэтай катэгорыі слухачоў павінен аддавацца прыярытэт як цяпер, так і ў доўгатэрміновых планах на будучае»,—зазначаецца ў «Асновах кіраўніцтва...» Чаму? Ды таму, маўляў, што людзі «гэтай узроставай групы павінны будуць заняць адказныя пасады». Ёсць і яшчэ адна, не менш значная акалічнасць, якая бярэцца пад увагу—гэта тое, што моладзь, маўляў, яшчэ не набыла дастатковай устойлівасці ў ідэалагічных пытаннях, не паспела выпрацаваць патрэбнага імунітэту супраць буржуазнай прапаганды.

Да гэтай катэгорыі адносяцца нават і члены КПСС «ва ўзросце маладзей як 40 гадоў, якія могуць належаць да розных сацыяльных груп». Мяркуецца, што членства ў пярвічных партыйных арганізацыях «можа быць нямногім больш, чым пустой фармальнасцю».

Наступная катэгорыя—навуковая і тэхнічная інтэлігенцыя. Сюды адносяцца таксама дырэктары заводаў і эканамісты, але пры ўмове, што яны «парушаюць савецкія правілы і імкнуцца перахітрыць партыйных апаратчыкаў». «Расказваючы ім, як людзі, якія займаюць аналагічныя пасады ў вольным грамадстве, вырашаюць свае практычныя праблемы, радыё «Свабода» можа даць звесткі і азнаёміць іх з ідэямі, якія яны могуць выкарыстаць у сваіх уласных інтарэсах,—напамінаецца ў інструкцыі.—Такім чынам можа быць забяспечана яшчэ адна вельмі ўплывовая катэгорыя слухачоў Р. С.».

Далей ідзе творчая інтэлігенцыя—дзеячы літаратуры і мастацтва, якія, на думку складальнікаў «Асноў кіраўніцтва...», калі аказаць на іх патрэбнае ўздзеянне, могуць мець рашаючы ўплыў на фарміраванне грамадскай думкі ў краіне.

У гэтую катэгорыю мажлівых слухачоў залічаюцца таксама юрысты, гісторыкі, філосафы і іншыя дзеячы разумовай працы, прафесія якіх, маўляў, «патрабуе ад іх аналізаваць час ад часу мэты і задачы савецкага грамадства». Важна, на думку шэфаў «Свабоды», і тое, што «гэтыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі» маюць доступ да большай колькасці звестак і да многіх ідэй, што паступаюць з некамуністычнага свету».

Не скідваюцца з рахунку і работнікі партыйнага і дзяржаўнага «апарату на абласным, гарадскім і раённым узроўні, уключаючы старшынь саўгасаў і калгасаў», якія павінны, маўляў, «выконваць на месцах волю цэнтралізаванага рэжыму і несці цяжар незадавальнення мясцовых жыхароў палітычным свавольствам і эканамічнымі непаладкамі».





«Асновы кіраўніцтва...» абавязваюць складальнікаў праграм мець на ўвазе кваліфікаваных рабочых і іх непасрэдных кіраўнікоў, савецкіх грамадзян, якія пабывалі за мяжой, і, нарэшце, калгаснікаў і некваліфікаваных рабочых.

Чаму ж катэгорыі калгаснікаў і некваліфікаваных рабочых значацца апошнімі ў спісе, хоць і падкрэсліваецца, што яны «складаюць асноўную масу насельніцтва СССР», якую «камуністычны рэжым імкнецца мабілізаваць на выкананне сваёй волі»? Ды таму, што «нямногія некваліфікаваныя рабочыя і калгаснікі маюць магчымасць слухаць перадачы з-за рубяжа». Смех дый годзе! Можна падумаць, што ўсе астатнія жыхары Савецкага Саюза толькі і занятыя тым, што сядзяць ля сваіх радыёпрыёмнікаў і чакаюць, што ім скажуць аракулы з ЦРУ.

У «Асновах кіраўніцтва...» даюцца парады, як павінен паводзіць сябе «госць», каб «не адштурхнуць гаспадара, не выклікаць непрыязнасць», а, наадварот, «заваяваць яго давер, веру да ўсяго, што гаворыцца, зрабіць падатлівым». Перш за ўсё рэкамендуецца пазбягаць «абвінавачвальнага тону і спрошчанай падачы інфармацыі», «зласлівых і неабгрунтаваных выпадаў супраць савецкіх кіраўнікоў і агульнага асуджэння ўнутранай і знешняй палітыкі».

Надзеі на нелаяльнасць савецкіх людзей да сацыялістычнага ладу, на магчымасць апазіцыі, супраціўлення і нават паўстання, якімі жылі арганізатары амерыканскай радыёпрапаганды ў перыяд панавання дактрыны «вызвалення», не толькі не прынеслі жаданых вынікаў, але і пацярпелі поўнае крушэнне. Арганізатары псіхалагічнай вайны прыйшлі да вываду, што «апазіцыю» ў савецкім грамадстве трэба ствараць самім. І справіцца з такой задачай можна ў тым выпадку, калі ўдасца стаць «госцем» у нашым доме. Вось чаму такая вялікая заклапочанасць наконт манер і паводзін, умення весці гаворку, каб звярнуць на сябе ўвагу, увайсці ў давер гаспадара дома, «абвесці яго вакол пальца» і ўрэшце прымусіць думаць, разумець, ацэньваць факты так, як гэта патрэбна «госцю». На мове «Асноў кіраўніцтва...» гэта называецца «стымуляванне незалежнага мыслення».

Такая метамарфоза—не што іншае, як тонкі разлік, які вынікае з новай канцэпцыі, новай дактрыны, што атрымала назву «мірнага пранікнення», «навязвення мастоў».

Таму, каго выпраўляюць у дарогу, загрыміраваўшы пад госця, рэкамендуецца таксама:

1. «Пазбягаць паблажлівага тону альбо такой падачы матэрыялу, якая б магла стварыць уражанне, што мы разлічваем на палітычную наіўнасць слухачоў».

2. «Не варта таксáма карыстацца палітычнымі, этычнымі альбо філасофскімі абагульненнямі, якія для савецкіх слухачоў могуць мець скажонае камуністычнай прапагандай значэнне, не растлумачыўшы, у якім спецыфічным сэнсе ўжываецца дадзенае абагульненне....».

3. «Неабходна пазбягаць уражання, што радыё «Свабода» прадстаўляе інтарэсы заходніх краін альбо з'яўляецца голасам якога-небудзь замежнага ўрада ці якой-небудзь замежнай групоўкі... Усе рэдакцыі (аддзелы) гавораць ад імя іх народаў у Савецкім Саюзе, у падтрымку іх агульнай справы вызвалення ад цэнтралізаванага дыктатарскага панавання».

Толькі строга прытрымліваючыся гэтых рэкамендацый, на думку іх складальнікаў, можна будзе стварыць вобраз «госця ў доме» і «заваяваць давер слухачоў, забяспечваючы бесперапынны рост пастаянных слухачоў нашых перадач».

Словам, поспех звязваецца толькі з хлуснёй, толькі з падманам. На іншае яны і не разлічваюць. «Не трэба надта прытрымлівацца праўды», зусім можна «некаторыя факты і падзеі выдумляць», так як іх «на велізарнай тэрыторыі Савецкага Саюза немагчыма праверыць», толькі «інфармацыя павінна падавацца серыямі».

Праблемы эфектыўнасці прапаганды, у тым ліку і падрыўной дзейнасці ў «псіхалагічнай вайне», займаюць у аднолькавай ступені як яе арганізатараў, так і непасрэдных выканаўцаў. У ЗША і іншых краінах паявілася спецыяльная катэгорыя людзей, якія займаюцца абагульненнем практычнага вопыту, тэарэтычнай распрацоўкай і тэарэтычным аналізам прыёмаў і метадаў вядзення «псіхалагічнай вайны», шырока выкарыстоўваючы даныя сацыялогіі, грамадскай і сацыяльнай псіхалогіі, тэорыі адносінасці і іншых навук. Адным з першых адкрываe гэты спіс П. Лайнбарджэр, які ўзяў на сябе місію абагульніць прыёмы і метады «радыёвайны», якія выкарыстоўваліся ў перыяд другой сусветнай вайны. Агульнапрызнанымі аўтарытэтамі вядзення буржуазнай прапаганды лічацца Х. Чайлдс, Л. Доўб, М. Чукас, Р. Мертон. У поглядах М. Чукаса, бадай, найбольш поўнае адлюстраванне знайшла агульная тэндэнцыя буржуазнай прапаганды. Ён, напрыклад, прытрымліваецца такой думкі, што галоўная задача прапаганды заключаецца не ў тым, каб праўдзіва інфармаваць людзей, а «пераўтвараць» праўду



К. ШАСТОЎСКІ. Развітанне.



В. ЛАЗАВЫ. Свабода. (Украінская ССР).

такім чынам, каб загадзя прадвызначанай мэтай маніпулятыўна ўздзейнічаць на паводзіны чалавека. Прапагандыст павінен дзейнічаць у адпаведнасці з прынцыпам, што з дапамогай ілюзіі можна дасягнуць большага, чым асветай ці прымусам.

Агульнымі намаганнямі практыкаў, ідэолагаў і тэарэтыкаў «псіхалагічнай вайны» выпрацавана ўжо нямала прыёмаў і метадаў падрыўной дзейнасці, з дапамогай якіх, як яны лічаць, можна дабіцца найбольшага эфекту. У аснове іх у пераважнай большасці пакладзена работа з фактам. Сутнасць «работы» з фактам асабліва стане зразумелая, калі пазнаёміцца з тэарэтычнымі выкладкамі і поглядамі амерыканскага сацыёлага Мертона, якія сталі прадметам разгляду савецкага вучонага доктара філасофскіх навук Л. Скварцова ў кнізе «Об особенностях кризиса современной буржуазной идеологии».

Асноўная праблема для буржуазнага прапагандыста, як вынікае з даследавання Р. Мертона, заключаецца ў тым, каб прымусіць загаварыць факты ў адпаведнасці з інтарэсамі той сацыяльнай групы, якой ён служыць. З гэтага пункту гледжання не ўсе факты маюць аднолькавую каштоўнасць. Адны з іх могуць насіць нейтральны характар, не закранаць прама ці ўскосна інтарэсаў прапагандыста, другія — супярэчаць інтарэсам прапагандыста, а трэція — маюць для яго асаблівую каштоўнасць, паколькі ён можа прымусіць іх працаваць на сябе, у адпаведнасці са сваімі інтарэсамі. Уся праблема заключаецца ў тым, каб прэса радыё, тэлебачанне і іншыя сродкі прапаганды давалі такую камбінацыю гэтых трох тыпаў фактаў, якая дазваляла б стварыць уражанне «аб'ектыўнасці» прапагандыста і ў той жа час прымусіла чытача зрабіць вывад, *які патрэбен прапагандысту.* Іншымі словамі, павінны, маўляў, гаварыць факты, а не прапагандыст, але гаварыць такім чынам, як гэта неабходна прапагандысту.

На першым часе работа з фактам на радыёстанцыі «Свабода» не вельмі была ў пашане. Ды і не было ў гэтым патрэбы, паколькі ўсе, хто стаў пад сцягі антыкамунізму, барацьбы з «бальшавізмам», жылі надзеяй, што не сёння, дык заўтра пачнецца крыжовы паход супраць «бальшавізму». У выбары сродкаў, метадаў, прыёмаў вядзення падрыўной дзейнасці праз эфір ніхто не цырымоніўся, у модзе былі непрыкрытая лаянка, пагрозы, прамыя заклікі да звяржэння бальшавіцкай улады.

Цяпер, калі нават у самых адпетых ворагаў савецкай улады згасла надзея на знішчэнне бальшавізму, на парадак дня пастаўлена задача ўзарваць савецкае грамадства «знутры», і рабоце з фактам надаецца першаступеннае значэнне. Грызе толькі клопат, як здабыць факты. Для гэтага старанна вывучаецца савецкая, у тым ліку і беларуская прэса. Не для таго, вядома, каб мець больш поўнае ўяўленне аб сацыяльных і культурных пераўтварэннях, аб здзяйсненнях і перамогах, якія атрыманы на шляху стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму, а каб наскубці пэўных фактаў, якія можна будзе выкарыстаць для канструявання сваіх «глыбакадумных» вывадаў і прароцтваў. Найбольш цэняцца, вядома, матэрыялы, у якіх ускрываюцца недахопы ў дзейнасці некаторых прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, устаноў, дзе крытыкуюцца асобныя нядбайныя гаспадарнікі. На ўлік бярэцца кожны такі факт. Ён можа спатрэбіцца. Скажам, на падставе выпадкаў, што там-сям не арганізавалі падвоз дзяцей у школу, можна заявіць аб «катастрафічным становішчы народнай асветы ў Беларусі». На падставе таго, што на якімсьці прадпрыемстве мелі месца факты выпуску недабраякаснай прадукцыі, можна зрабіць вывад, што сістэма планавання ў Савецкім Саюзе «заахвочвае выраб недабраякаснай прадукцыі».

Па такой спрошчанай схеме, вядома, вядуцца далёка не ўсе перадачы. Буржуазная прапаганда выпрацавала нямала вытанчаных прыёмаў і метадаў, якія ў апошні час знаходзяць усё большае прымяненне на радыёстанцыі «Свабода». Адзін з іх — выкарыстанне ўскосных эфектаў інфармацыі.

У перадачах, што вядуцца на беларускай мове, больш за ўсё ў пашане два прыёмы *выкарыстання ўскосных эфектаў інфармацыі: па-першае, падбор і пада*ча фактаў такім чынам, каб яны міжволі наводзілі слухачоў на параўнанні; падругое, мэтанакіраваны падбор інфармацыі, разлічаны на фарміраванне грамадскай думкі ў патрэбным кірунку.

У першым выпадку выбіраюцца, а часцей за ўсё фальсіфікуюцца такія факты, згодна якіх ЗША альбо іншыя заходнія краіны дамагліся лепшых вынікаў у рашэнні тых ці іншых праблем. Гэты прыём выкарыстоўваецца ў перадачах, якія ставяць сваёй мэтай даказаць перавагу капіталістычнага ладу жыцця. Асабліва ён грунтоўна эксплуатаваўся, калі чэхаславацкая контррэвалюцыя сумесна з апартуністычнымі элементамі пад сцягам сваёй мадэлі так званага «гуманнага сацыялізму» дамагалася на нішто звесці заваёвы сацыялізму ў Чэхаславакіі.

На мове «Асноў кіраўніцтва...» гэта называлася «Інтэрнацыяналізацыяй дэмакратычных альтэрнатыў». Сэнс гэтай «інтэрнацыяналізацыі» сфармуляваны так: «Радыё «Свабода» інтэрналізуе, гэта значыць, выкарыстоўвае дастасоўна да ўмоў жыцця і запатрабаванняў савецкіх грамадзян інфармацыю аб падзеях у іншых





краінах і падае яе ў найбольш зразумелым для грамадзян ізлажэнні, каб паказаць ім, як іншыя народы і грамадзяне іншых краін дзейнічаюць, каб дамагчыся паляпшэння свайго становішча. Для гэтай мэты важна прыводзіць у прыклад праблемы і прагрэс народаў дэмакратычных краін Заходняй Еўропы і Злучаных Штатаў, растлумачваць фактычныя функцыі дэмакратычных, палітычных, эканамічных і грамадскіх устаноў і інстытутаў».

Вось што патрабуецца ад таго, хто рыхтуе той ці іншы скрыпт (прытрымліваючыся тэрміналогіі «Асноў кіраўніцтва»):

«1. Умела і паслядоўна падбіраць факты, падбіраць так, каб яны прыводзілі да абгрунтаванага заключэння і не выклікалі сумнення ў іх дакладнасці альбо маглі быць вытлумачаны як проста асабістая думка.

2. Найлепшая канцоўка для скрыпта, калі яна заканчваецца пытаннем. Калі правільна падбіраюцца і падаюцца факты, а затым даецца магчымасць слухачу самому рабіць вывад, то такія заключэнні застануцца ў памяці слухача і скрыпт, пэўна, не будзе скора ім забыты.

3.Чым больш «жорсткія факты», тым менш эмоцый».

І яшчэ адна парада — наконт тэрміналогіі, якая знаходзіцца ва ўжытку савецкіх людзей. На пачатку дзейнасці радыёстанцыі яе перадачы нічым не адрозніваліся ад матэрыялаў, што публікаваліся ў амерыканскай прэсе і былі разлічаны на тое, каб запалохаць абывацеля «камуністычнай пагрозай». Цяпер ставіцца задача зусім адмовіцца ад такога роду перадач. Даецца строгі наказ: «устрымлівацца ад прымянення ў зняважлівым сэнсе выразаў і фразеалогіі, прымальных для савецкіх слухачоў... Многія савецкія слухачы ўсё яшчэ глядзяць на камунізм, як на далёкую мэту, якая, калі яна будзе дасягнута, была б для іх дабром. Многія слухачы — члены КПСС, гэта значыць, камуністы. Многія савецкія грамадзяне лічаць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя была прагрэсіўнай падзеяй....Выкарыстанне ў зняважлівым сэнсе такіх тэрмінаў, якія прымальныя і маюць пэўны сэнс для савецкіх слухачоў, можа выклікаць антаганізм і такім чынам пазбавіць добры ва ўсіх адносінах скрыпт яго эфектыўнасці».

Як бачым, усё: і змест, і прыёмы, і тэхніка перадач — падначалена аднаму, каб «госць» спадабаўся нам, каб прымусіць нас слухаць яго і дзейнічаць так, як ён хоча. Даюцца падрабязныя парады, як працаваць з фактамі, падаваць іх і выстройваць. І ні слова аб аналізе фактаў, аб тым, каб яны разглядаліся ва ўзаемасувязі.

У перадачах, якія адрасуюцца рабочым, напрыклад, старанна абмінаецца адно з галоўных пытанняў—у чыіх руках у капіталістычных краінах, у тым ліку ў ЗША, знаходзяцца сродкі вытворчасці, а таксама тое, які ўдзел прымаюць рабочыя ў размеркаванні прыбытку, іх роля ў грамадскім жыцці, кіраванні дзяржавай, прадпрыемствам.

Факты, праўда жыцця не па нутры тым, хто ўзяў на сябе не вельмі ўдзячную ролю — «перакаваць» нас на свой лад. У іх свой падыход да фактаў, свая логіка, якая дыктуецца пэўнымі мэтамі і задачамі, інтарэсамі класа, які, прадчуваючы сваю непазбежную пагібель, усяляк імкнецца адтэрмінаваць свой смяротны час, затармазіць здзяйсненне вялікіх планаў камуністычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе і іншых краінах сацыялізму.

Ці трэба гаварыць, як радуюць усіх нас поспехі ў сельскай гаспадарцы, якая стала адной з высокамеханізаваных галін народнай гаспадаркі. Сацыялістычная арганізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці, шырокае ўкараненне ў практыку дасягненняў навукі і тэхнікі карэнным чынам змянілі характар сялянскай працы. Цяпер вёска, як кажуць у нас, ідзе ў нагу з горадам. Няўхільна развіваецца дабратворны працэс пераадолення розніцы ва ўмовах працы і побыту гараджан і жыхароў вёскі. Ручная праца, асабліва ў паляводстве, зведзена да мінімуму. Зараз у калгасах і саўгасах Беларусі працуе каля 91 тысячы трактараў, каля 30 тысяч збожжаўборачных камбайнаў, каля 50 тысяч грузавых аўтамашын і многа іншай складанай сельскагаспадарчай тэхнікі. Натуральна, што праца хлебароба становіцца разнавіднасцю разумовай працы, што ў вёсцы вырасла велізарная армія высокакваліфікаваных спецыялістаў: механізатараў рознага профілю, аграномаў, заатэхнікаў, ветэрынараў і інш.

Як жа ацаніла гэты факт «Свабода»? Савецкая дзяржава і партыя паклапаціліся, каб стварыць у вёсцы гэтую «прывілеяваную праслойку», на якую можна было б абаперціся ў ажыццяўленні сваёй палітыкі. А што гэта прывілеяваная праслойка, дык сведчыць той факт, што іх праца лепей аплачваецца — робіцца ўдакладненне. Робіцца нездарма: можа так удасца ўнесці разлад у дружную сям'ю працаўнікоў вёскі, а заадно пасеяць у пэўнай катэгорыі людзей непрыязнасць да савецкай дзяржавы, да КПСС і яе палітыкі.

У адносінах да тэхнічнай інтэлігенцыі некалькі іншы падыход — выяўляецца намер выклікаць і распаліць у свядомасці думку аб яе асобай, выключнай ролі ў гістарычным працэсе. Маўляў, мы жывём у век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, у

якой суджана адыграць рашаючую ролю тэхнакратам, людзям навукі, тэхнікі. Таму непазбежны працэс канцэнтрацыі ўлады ў руках вучоных і інжынераў. На Захадзе, у ЗША ён прыняў шырокія, можна сказаць, усеабдымныя памеры. Такі ж лёс, быццам, чакае і Савецкі Саюз, які перажывае перыяд навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Яе плён, аднак, не такі, як на Захадзе, бо ёй перашкаджае «дробязнае рэгламентаванне і адміністраванне» з боку партыйнага апарату, якое нібыта стрымлівае ініцыятыву, развіццё навукова-тэхнічнай і творчай дзейнасці савецкай тэхнічнай інтэлігенцыі.

У перадачах, прызначаных для пісьменніцкай, творчай інтэлігенцыі, акрэслена вызначылася імкненне навязаць ёй думку аб «аўтаноміі» мастацкай творчасці ад сацыяльных праблем, класавай барацьбы і палітыкі, паспрабаваць знайсці ў яе асяроддзі няўстойлівых у палітычных і ідэалагічных адносінах людзей і сваімі парадамі і рэкамендацыямі штурхнуць іх на апазіцыю да савецкай улады. Бадай, найбольш канцэнтраванае выяўленне гэты намер знайшоў у гутарцы «Пра грамадзянскую актыўнасць пісьменніка», якая нагадвае нешта накшталт памяткі, дзе выкладзены асноўныя прынцыпы, якімі павінны кіравацца ў сваёй творчасці і паўсядзённым жыцці пісьменнікі Беларусі. Прычынай для з'яўлення такога дакумента, як відаць з перадачы, паслужыла газетнае паведамленне, што група беларускіх пісьменнікаў сустрэлася ў Мінску з бібліятэчнымі работнікамі, якія сабраліся на сваю рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю.

Гэты, можна сказаць, «неабдуманы» ўчынак пісьменнікаў выклікаў такое абурэнне на радыёстанцыі, што яна не магла не папікнуць іх: «Ці ж гэта пісьменніцкая справа? Падобныя сустрэчы пісьменнікаў з'яўляюцца не столькі адным са спосабаў прапаганды беларускай літаратуры, колькі спосабам так званага ідэйнага ўзрошчвання». Дабрадзеі са «Свабоды» лічаць, што, напрыклад, «несумяшчальныя з пісьменніцкай дзейнасцю» выкананне грамадскіх і партыйных даручэнняў, удзел у правядзенні кампаніі па выбарах у Саветы, паездкі на прадпрыемствы і ў вёскі, заклікаюць пісьменнікаў устрымлівацца ад паездак у складзе дэлегацый БССР на сесіі Арганізацый Аб'яднаных Нацый. Чаму? Ды таму, што ў пісьменніка, які прымае ўдзел у рабоце ААН, як правіла, узнікае жаданне выказаць свае адносіны ў прэсе да некаторых бакоў амерыканскай рэчаіснасці, паколькі ёсць магчымасць непасрэдна сутыкнуцца з ёю ў час знаходжання ў Нью-Йорку. Зразумела, што ўсё гэта «далікатна» тлумачыцца іначай: каб «пісьменнікі не адрываліся ад непасрэднай творчай працы».

За гэтымі парадамі і рэкамендацыямі выразна відаць жаданне калі не кіраваць, то хоць бы аказваць свой уплыў на ход літаратурнага працэсу ў саюзных рэспубліках, зрабіць усё магчымае, каб нейкім чынам адгарадзіць пісьменнікаў ад жыцця — гэтай вечнай невычэрпнай крыніцы творчасці, а, значыць, і асудзіць іх на бясплоднасць. У гутарках, якія прызначаны для пісьменніцкай аўдыторыі, найбольшы ўжытак знайшоў прыём, які атрымаў у амерыканскай прапагандзе назву «свае хлопцы». Іх аўтары, асабліва цяпер, калі пайшла на спад халодная вайна, пачалі выступаць гэткімі «добрымі хлопцамі», якія кіруюцца жаданнем «па-шчырасці», «сардэчна» пагаварыць, пагутарыць, выказаць свае «сяброўскія» парады наконт таго, што замінае таму ці іншаму аўтару ў творчасці, у станаўленні як пісьменніка, які б мог стаць упоравень са сваімі калегамі на Захадзе. Яны, маўляў, зацікаўлены толькі ў тым, каб нацыянальная літаратура квітнела, развівалася, каб яна стала і здабыткам Захаду. Гэты прыём разлічаны на тое, каб падлашчыцца пад аўдыторыю і заваяваць яе давер, увагу. Праўда, у прапагандыстаў ЦРУ не заўсёды хапае цярпення і яны нярэдка збіваюцца на тон натацый, павучання.

«Клопатаў» у тых, каму даручана на радыёстанцыі «Свабода» апякаць нацыянальныя літаратуры, у дадзеным выпадку — беларускую, вельмі многа. Ім здаецца, што без іх падказкі пісьменнікі не ведаюць, пра што пісаць і як пісаць. На гэту тэму яны гатовы адкрыць ледзь не семінар для пісьменнікаў у эфіры. Ужо добра азначыліся нават некаторыя агульныя тэмы для размовы. Скажам, пісьменнік і сучаснасць. Думка, якую збіраецца ўнушыць радыёстанцыя ўяўнаму слухачу, такая: «Сучаснае вытворчае асяроддзе не дае патрэбнага матэрыялу і тым самым вымушае пісьменніка пісаць тое, чаго няма ў сапраўднасці».

Каму не зразумела, што гэта лухта? Але якія даюцца тлумачэнні. Перш за ўсё робяцца спасылкі на сацыяльныя змены, якія, напрыклад, «у Беларусі адбыліся, на вялікі жаль, не да лепшага, а толькі парушылі ранейшую гармонію».

У чым жа яна парушана, гэтая гармонія? У вёсцы, маўляў, «калгаснік пазбаўлены ўласнай зямлі і ўласнай гаспадаркі, траціць традыцыйную прыхільнасць да зямлі, стаў пасіўным і абыякавым да працы». Ну, а што датычыцца горада, то сам ён па сабе з'ява не тыповая для Беларусі, хоць у гарадах насельніцтва ў большасці сваёй беларускага, сельскага паходжання, але яно не жыве сваім нацыянальным жыццём. «Ва ўяўленні пісьменнікаў гэтае асяроддзе такое, што да яго душа





не ляжыць»,— прыходзіць да такой высновы празмерна дасведчаны «знаўца» беларускай пісьменніцкай душы. Здзіўляцца гэтаму наўрад ці варта, бо па фантазіі і плата. Цікава іншае. Ніхто іншы, як тая ж радыёстанцыя «Свабода», некалькі раней аглядаючы «крытычным» позіркам творчасць беларускіх пісьменнікаў, гаварыла аб прыхільнасці да рабочай тэмы Уладзіміра Карпава, Аляксея Кулакоўскага, Алеся Савіцкага і іншых, а да традыцыйнай сельскай тэмы — Івана Мележа, Івана Шамякіна, Івана Пташнікава, Івана Чыгрынава, Барыса Сачанкі, Ігната Дуброўскага, а з маладых Анатоля Кудраўца. Прычым рабіўся асцярожны вывад, што на падставе твораў гэтых пісьменнікаў можна скласці некаторае ўяўленне пра тыя з'явы і працэсы, што адбываюцца ў цяперашняй беларускай вёсцы і цяперашнім беларускім горадзе. Яны, гэтыя працэсы і з'явы, у творах, як вядома, такія, што ніяк не стасуюцца з прыведзенымі вышэй вывадамі радыёстанцыі.

Не менш займаюць радыёстанцыю і такія пытанні, як ідэйныя погляды пісьменнікаў, іх адносіны да палітыкі партыі, іх палітычная актыўнасць. Тут яна ніяк не можа пагадзіцца з заявай беларускіх пісьменнікаў, што яны ўспрымаюць палітыку партыі як сваю асабістую, што партыйнасць — гэта ключ да разумення жыццёвай праўды, ключ да адкрыцця «тайнаў» рэчаіснасці. Якое абурэнне выклікала паведамленне пра справаздачна-выбарчы сход камуністаў беларускай пісьменніцкай арганізацыі, дзе гутарка ішла пра тое, што чым цясней сувязь пісьменніка з усім шматгранным жыццём савецкага народа, тым больш верны шлях да творчых поспехаў і дасягненняў, што поспех пісьменніцкай дзейнасці знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад павышэння росту палітычнай свядомасці, глыбокага разумення палітыкі партыі і самага актыўнага ўдзелу ў ажыццяўленні яе прадвызначэнняў. На думку радыёстанцыі «Свабода», такая арыентацыя скіроўвае пісьменнікаў «на няправільны шлях», вымушае займацца не тым, чым павінна займацца літаратура, а іменна — «светам звычайных пачуццяў і чалавечых эмоцый». Даецца парада: «Ці не лепш партыйнай арганізацыі займацца работай творчых секцый і іншымі арганізацыйнымі справамі?».

У цэнтры атак «Свабоды» і ленінскі лозунг партыйнасці ў літаратуры. Але яна нічога і не магла прыдумаць, як узняць на ўзбраенне аргументы розных апартуністаў і адшчапенцаў, якія сцвярджаюць, быццам Ленін у артыкуле «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура» не меў на ўвазе літаратуру мастацкую, а вёў размову толькі пра партыйную публіцыстыку. У сваім імкненні вывесці літаратуру за межы сацыяльнай адказнасці, адарваць творчую інтэлігенцыю ад партыі, як бачым, цесна самкнулі свае рады прамыя агенты ЦРУ і тыя, хто нядаўна кляўся ў адданасці сацыялізму і перабег у лагер ворага. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: як адны, так і другія добра разумеюць, якую велізарную ролю мае літаратура ў савецкім грамадстве, у фарміраванні новага чалавека, якому выпаў вялікі гонар першаму пракладваць дарогу ў камуністычнае будучае.

На радыёстанцыі прытрымліваюцца правіла даваць парады ў кожным канкрэтным выпадку, персанальна. Звычайна падставай служыць выхад у свет новай кнігі ці юбілей пісьменніка. У дні пяцідзесяцігоддзя Івана Шамякіна і Івана Мележа радыёстанцыя «Свабода» прысвяціла іх творчасці значную частку сваіх выпускаў. Але не для таго, каб, як кажуць, аддаць належнае, хоць, безумоўна, не абышлося без прызнання ў «любові», як гэта звычайна робіцца ў такіх выпадках для стварэння нейкай аб'ектыўнасці. З'явіўся зручны выпадак, каб фальсіфікаваць творчасць пісьменнікаў, «адшукаць» у іх тое, што можна падаць «навыварат», каб, урэшце, выказаць ім свае «даверчыя парады». Вось адна з іх — Івану Шамякіну: яму будзе напэўна спадарожнічаць поспех у далейшым, «калі ён возьмецца па-сапраўднаму за распрацоўку тэмы, звязанай з дэсталінізацыяй, і не будзе баяцца вымушанай тэндэнцыі пісьменніка ўвайсці ў канфлікт з афіцыйнай лініяй». Такія парады, дарэчы, даваліся ледзь не ўсім вядомым беларускім пісьменнікам, а самі тэрміны «дэсталінізацыя» і «сталінізм» нязменна прысутнічаюць у перадачах вось ужо на працягу многіх гадоў.

Радыёстанцыя «Свабода» ідзе ўслед за іншымі цэнтрамі псіхалагічнай вайны, якія надаюць вялікае значэнне стварэнню прапагандысцкіх стэрэатыпаў. Адносна іх ёсць і тэорыя, сутнасць якой заключаецца ў тым, што прапагандыст павінен дабівацца таго, каб індывідуум успрымаў навакольны свет «шляхам уяўлення», а не рэальнага пазнання. Кожны стэрэатып павінен несці пэўны «вобраз» і даваць просты адказ на складаныя, комплексныя праблемы сучаснасці. Стваральнікам і актыўным прапагандыстам гэтай тэорыі выступіў яшчэ ў 1922 годзе У. Ліпман. Вядома, тэхналогія канструявання стэрэатыпаў не засталася нязменная. У нашы дні, як правіла, яны ўтрымліваюць негатыўны сэнс. «Сталінізм»— адзін з такіх стэрэатыпаў. Амерыканскія ідэолагі пастараліся ўкласці ў яго такі сэнс, які выклікаў бы ў свядомасці неспакушаных у палітыцы людзей асацыяцыі з усім тым, што супярэчыць ідэалам чалавецтва. Прычым ім не адразу прыйшла

такая ідэя. Яны спадзяваліся, што крытыка культу асобы, якая пачалася ў Савецкім Саюзе, сама па сабе прывядзе да карэнных перамен, а калі ўбачылі, што вядзе не на падрыў, а на ўмацаванне і ўдасканальванне сацыялістычнага ладу, спахапіліся. Пачаліся пошукі, як выкарыстаць крытыку культу асобы ў сваіх прапагандысцкіх, падрыўных дзеяннях. Ярлык «сталінізму» стаў практычна наклейвацца да ўсіх праяў сацыялістычнай рэчаіснасці.

У дыверсантаў эфіру нямала і іншых клопатаў, і, у прыватнасці, як апярэдзіць і даць тлумачэнне чытачам таго ці іншага твора, які з'яўляецца ў беларускім часопісе ці выходзіць асобным выданнем. Яны цвёрда перакананы: калі ўмела прэпарыраваць іншы твор, то можна шмат чаго дамагчыся. «Гонару» быць прэпарыраванымі і вытлумачанымі вернымі служкамі ЦРУ на радыёстанцыі «Свабода» «ўдастойваецца» амаль кожны буйны твор, а часам нават падборка вершаў ці асобнае апавяданне.

Чым бы, вы думалі, тлумачыцца поспех шырока вядомай «Палескай хронікі» Івана Мележа? Аказваецца, тым, што «ў Мележавым паказе не толькі так званыя кулакі і серадняки супраць калектывізацыі, але супраць яе і бедныя!» Альбо вось яшчэ адзін узор эквілібрыстыкі. Спасылаючыся на аповесць Б. Сачанкі «Баравое рэха», мюнхенскія добразычліўцы заявілі, што аўтара «абурыў факт перасялення моладзі з Беларусі на далёкія заўральскія прасторы» (на самой жа справе Сачанка вуснамі аднаго са сваіх герояў асуджае некаторых аматараў лёгкага заробку, што пакінулі родную вёску ў пагоні за доўгім рублём). Падсумоўваючы размову пра «Баравое рэха», мюнхенцы шматзначна сцвярджаюць: «беларуская моладзь і цэлыя сем'і пакідаюць родныя мясціны не легкадумна, не ў пошуках нейкай рамантыкі. Да гэтага іх прымушае нясцерпнае жыццё ў калгасным прыгоне».

Усё гэта толькі лішні раз пацвярджае бездапаможнасць і ўбоства думкі мюнхенскіх «гасцей».

Спакуса стаць настаўнікам, дарадчыкам беларускай і ўвогуле савецкай моладзі, завалодаць яе ўвагай, аказаць сваё ўздзеянне на фарміраванне яе светапогляду, навязаць свой вобраз мыслення, свае ідэалы надзвычай вялікая. Вядомы буржуазны сацыёлаг Мюлер, які прысвяціў сябе, паводле яго слоў, «спецыялізацыі ў галіне вывучэння цяжкіх праблем моладзі», гаворыць: «У стратэгічных адносінах надзея—выключна на вайну ідэй. І ў гэтай вайне рашаючая бітва павінна адбыцца на тым полі бою, якое мы называем так звычайна — «моладзь». У сваёй брашуры «Дайце моладзі бога» Мюлер падкрэслівае: «Менавіта тых, каго мы называем маладымі, неабходна з калыскі акружыць атмасферай крытычных адносін да «навукі аб сацыялізме» ці «тэорыі камунізму».

Мюнхенскіх дарадчыкаў ад ЦРУ, як сведчаць перадачы, непакоіць думка аб тым, як прывіць савецкай моладзі нізкапаклонства перад заходнім, а, дакладней, амерыканскім ладам жыцця, выклікаць у яе песімізм і нявер'е ў камуністычныя ідэалы. Свае перадачы на маладзёжныя тэмы яны спрабуюць пабудаваць на прыёме аналогіі: з аднаго боку, намаляваць бясклапотную карціну жыцця моладзі ў так званым «вольным свеце», стварыць гэтакі «эталон» маладога чалавека «індустрыяльнага грамадства», які карыстаецца ўсімі свабодамі «сапраўднай дэмакратыі», чаго, маўляў, «пазбаўлены маладыя людзі ў СССР», з другога боку, падаць жыццё савецкай моладзі «шэрым» і «гранічна рэгламентаваным», дзе нібыта няма месца для «свабоднага самавыяўлення асобы».

Калі верыць перадачам «Свабоды», дык у амерыканскай моладзі не жыццё, а маліна. Яна мае самыя найлепшыя ўмовы атрымаць вышэйшую адукацыю, набыць неабходную прафесію, зрабіць кар'еру ў навуцы, на ніве грамадскай і дзяржаўнай дзейнасці, на вытворчасці, добра адпачыць, займацца спортам, адпраўіцца ў турысцкае падарожжа.

Безумоўна, ёсць у ЗША маладыя людзі, якія адпачываюць на курортах, адпраўляюцца ў далёкія турысцкія падарожжы. Ёсць і такія, што не набылі яшчэ прафесіі, а ўжо маюць свае рахункі ў банку, апошнія маркі аўтамашын. Але колькі іх? Якая гэта частка моладзі? Чаму ж тады больш чым 12 працэнтаў моладзі не можа знайсці работу, а сярод негрыцянскай моладзі гэты працэнт куды большы? Дзе ўзяць 10 тысяч долараў бедняку, каб аплаціць за навучанне сваіх дзяцей у вышэйшых навучальных установах? Дзе ўзяць гэтыя грошы ім, 4 мільёнам амерыканцаў, якія не могуць атрымаць работу?

Закранаючы пытанні адукацыі ў Савецкім Саюзе, радыёстанцыя ўпарта пазбягае якога-небудзь аналізу, супастаўлення, сур'ёзнай, дзелавой размовы. І гэта зразумела. Калі б яна кіравалася задачай даць аб'ектыўную карціну жыцця савецкай моладзі, то вымушана была б прызнаць, што менавіта сацыялізм, які ўстанавіў бясплатную агульнадаступную адукацыю, узяў на сябе ўсе клопаты па набыцці маладымі людзьмі жаданай прафесіі, з'яўляецца тым грамадствам, якое адкрывае неабмежаваныя магчымасці для праяўлення чалавечай асобы.

У сваім імкненні знайсці шляхі, каб мець уплыў на розныя пласты насельніцтва, на шматлікія нацыянальнасці, што насяляюць Савецкі Саюз, радыёстанцыя няспынна папаўняе запас прыёмаў і метадаў з арсенала, накопленага амерыканскай прапагандай у ходзе псіхалагічнай вайны. З вялікай ахвотай, напрыклад, выкарыстоўваецца так званы прыём «сведчання». У перадачы не выказваецца сваіх адносін да тых ці іншых падзей, а прыводзяцца выказванні вядомых буржуазных палітычных і грамадскіх дзеячаў, выцрымкі з буржуазнай прэсы, радыё і тэлебачання. Мы, маўляў, тут ні пры чым. Мы знаёмім вас з фактамі, што паведамляюцца ў іншых органах масавай інфармацыі, а вы рабіце самі вывад.

Да гэтага прыёму радыёстанцыя вельмі часта звяртаецца ў тых выпадках, калі трэба апраўдаць знешнепалітычныя акцыі ЗША альбо дзейнасць антысавецкіх арганізацый, якія імкнуцца распаліць нацыяналістычныя пачуцці ў пэўнай групе насельніцтва. Вось ужо некалькі гадоў ледзь не нумарам адзін з'яўляецца так званае яўрэйскае пытанне ў СССР. Сама радыёстанцыя рэдка выказвае свае адносіны, меркаванні да яго. Але ў перадачах нязменна прысутнічаюць матэрыялы, прызначэнне якіх — абудзіць пачуццё незадавальнення ў савецкіх грамадзян яўрэйскага паходжання савецкім ладам, выклікаць апазіцыйныя настроі. Гэтыя матэрыялы ў пераважнай большасці бяруцца з бульварнай і антысавецкай буржуазнай прэсы. Радыёстанцыя нібы падкрэслівае, што знімае з сябе ўсялякую адказнасць, даючы іх у эфір.

Усё часцей і часцей у перадачах з'яўляюцца так званыя пісьмы савецкіх грамадзян, якія, як правіла, фабрыкуюцца на мюнхенскай кухні. Гэта таксама адзін з прыёмаў гульні ў «аб'ектыўнасць». Радыё «Свабоды», маўляў, і ведаць нічога не ведае. Яна толькі выконвае просьбы сваіх слухачоў, якія не могуць прымірыцца з некаторымі бакамі савецкай рэчаіснасці, прагнуць перамен. З дапамогай такіх пісьмаў ставіцца задача не толькі ўздзейнічаць на савецкіх людзей, але і стварыць уражанне існавання якіхсьці апазіцыйных сіл у нацыянальных рэспубліках.

Час ад часу практыкуюцца і выступленні падстаўных асоб па загадзя напісаных тэкстах ад імя неіснуючых «ахвяр бальшавізму». У штаце ёсць супрацоўнікі, якім даручана займацца адшукваннем асоб, што пагадзіліся б выступаць ад імя савецкіх «перабежчыкаў». Звычайна пошукі патрэбных людзей вядуцца ў раёнах, дзе жывуць перамешчаныя асобы, у асяроддзі тых, хто не мае работы, знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы.

У ролі савецкіх перабежчыкаў нярэдка даводзіцца выступаць самім супрацоўнікам радыёстанцыі. Відаць, не так проста знайсці добраахвотнікаў сярод перамешчаных асоб.

Гаспадары радыёстанцыі і іх наёмныя служкі не ведаюць, што яшчэ можна прыдумаць, каб звярнуць на сябе ўвагу, займець для сябе аўдыторыю.

З «Асноў кіраўніцтва...» і перадач, як мы бачым, шэфаў радыёстанцыі цікавіць не адна якая-небудзь група савецкіх людзей. Ім хацелася б, каб голас радыёстанцыі гучэў у кожным нашым доме. Таму і наказ такі—мець на ўвазе розныя катэгорыі насельніцтва, таму такія настойлівыя пошукі ўсё новых метадаў і прыёмаў.

Заходнегерманскі часопіс «Канкрэт» даў такую характарыстыку перамене метадаў радыёстанцыі «Свабода»: «Яна на першым часе ўздзёўбвала слухачу свой антыкамунізм з дапамогай драўлянага малатка, а сёння яна распаўсюджвае халодную вайну на мяккай хвалі».

Сказана даволі трапна! Але... «Каб сонца засланіць—вушэй асліных мала»...

Як бачым, нашы ідэйныя ворагі не дрэмлюць. Ім не дае спакою пытанне, як пашырыць рамкі псіхалагічнай вайны, падрыўной дыверсійнай дзейнасці. Яны ў пошуках новых прыёмаў і метадаў, новых аргументаў і версій, з дапамогай якіх можна было б аказваць сваё ідэалагічнае ўздзеянне на савецкіх людзей.

Недаацэньваць гэтых намаганняў мы не можам. Наша партыя заўсёды папярэджвала, што ў галіне ідэалогіі не можа быць мірнага суіснавання, як і не можа быць класавага міру паміж пралетарыятам і буржуазіяй. XXIV з'езд КПСС указаў на неабходнасць своечасовага, рашучага і эфектыўнага адпору ідэалагічным дыверсіям імперыялістычнай прапаганды.

На нашым баку — справядлівая і святая справа, у нашых руках самая моцная зброя—марксізм-ленінізм, нашы ідэалы блізкія ўсім людзям працы на зямлі. Асновай нашага ідэалагічнага наступу з'яўляюцца поспехі Савецкага Саюза, яго эканамічная і ваенная магутнасць, непахісная адданасць КПСС, усяго савецкага народа ідэям навуковага сацыялізму, камунізму, велізарны ўклад Савецкай дзяржавы ў абарону ўсеагульнага міру і бяспекі народаў, у справу барацьбы працоўных мас усяго свету за свабоду і сацыяльны прагрэс.

**Анатоль СТУК.**






# 1974

**1000** гадоў з часу заснавання (974) Віцебска.

**200** гадоў назад (1774) у Гродна былі заснаваны медыцынская школа і батанічны сад.

**150** гадоў з часу выдання (1824) «Белорусского архива древних грамот», першага зборніка дакументаў па гісторыі беларускіх земляў.

**150** гадоў назад (1824) адбыліся хваляванні сялян памешчыка Барысевіча ў Рагачоўскім павеце.

**150** гадоў назад (1824) пачалося будаўніцтва Аўгустоўскага канала, буйнога гідратэхнічнага збудавання XIX стагоддзя. Канал злучыў басейны рэк Нёмана і Віслы. (Будаўніцтва закончана ў 1839 г.)

**100** гадоў назад (1874) у Мінску быў пабудаваны вадаправод.

**90** гадоў назад нарадзіўся Я. Д. Зевін (1884—1918), адзін з 26 бакінскіх камісараў. (Ураджэнец Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні).

**90** гадоў назад (1884) у Пецярбурзе выйшаў першы нумар нелегальнага часопіса «Гоман», органа беларускай фракцыі тайнага таварыства «Народная воля».

**80** гадоў назад (1894) у Гомелі адбылася буйная забастоўка рабочых Лібава-Роменскай чыгункі.

**80** гадоў назад (1894) у Мінску ў чыгуначных майстэрнях і на металаапрацоўчых заводах Ліўшыца і Якабсона пачалі дзейнічаць сацыял-дэмакратычныя рабочыя гурткі (кіраўнік С. Трусевіч).

**70** гадоў назад (1904) на Беларусі ўтварыліся Копыская, Лідская, Мазырская і Аршанская групы РСДРП.

**70** гадоў назад нарадзіўся Д. А. Караткевіч (1904—1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гг.

**60** гадоў назад нарадзіўся П. А. Леcontainsвіч (1914—1944), беларускі пісьменнік.



Я. Д. Зевін.



Д. А. Караткевіч.



П. А. Левановіч.



**50** гадоў назад (1924) у Мінску быў адкрыты Беларускі музычны тэхнікум (цяпер Мінскае музычнае вучылішча імя М. І. Глінкі).

**50** гадоў з часу выхаду (1924) першага нумара газеты «Чырвоны сцяг» — органа ЦК КПЗБ (выходзіла да 1936 г.).

**40** гадоў з часу заснавання (1934) Віцебскага медыцынскага інстытута.

**40** гадоў з часу заснавання (1934) у Мінску ўрадавай бібліятэкі імя А. М. Горкага.

**30** гадоў з часу заснавання (1944) Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы.

**30** гадоў назад (1944) заснаваны Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі.

**5** гадоў назад (1969) пачалося будаўніцтва Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода.

**5** гадоў назад (1969) Лукомльская ДРЭС дала першую электраэнергію.

## СТУДЗЕНЬ

**1**

**55 гадоў з дня ўтварэння (1919) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Камуністычнай партыі Беларусі.**

45 гадоў з дня заснавання (1929) Акадэміі навук БССР (на базе Інстытута беларускай культуры).

**7**

50 гадоў з дня нараджэння (1924) Г. У. Шыловіча, беларускага пісьменніка.

50 гадоў з дня нараджэння (1924) Б. І. Бур'яна, беларускага пісьменніка.

**8**

50 гадоў з дня нараджэння (1924) У. І. Дадзіёмава, беларускага пісьменніка.

**9—15**

50 гадоў назад (1924) праходзіў V з'езд Саветаў БССР.

**10**

60 гадоў з дня нараджэння (1914) Н. В. Каменскай, вучонага-гісторыка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**11**

75 гадоў з дня нараджэння (1899) К. А. Буйло (Калечыц), беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча культуры БССР.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1904) В. П. Севярдзенкі, вучонага ў галіне апрацоўкі металаў, акадэміка Акадэміі навук БССР.

30 гадоў з дня вызвалення (1944) часцямі Савецкай Арміі Мазыра і Калінкавіч ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**14—15**

15 гадоў назад (1959) адбыўся XXIII з'езд КП Беларусі.



Г. У. Шыловіч.



Б. І. Бур'ян.



К. А. Буйло.

**15**

80 гадоў з дня нараджэння В. С. Нямчынава (1894—1964), вучонага-эканаміста і статыста, акадэміка Акадэмій навук СССР і БССР, лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій.

**16—22**

40 гадоў назад (1934) праходзіў XV з'езд КП(б) Беларусі.

**17**

70 гадоў з дня нараджэння (1904) А. І. Якімовіча, беларускага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры БССР.



А. І. Якімовіч.

**20**

90 гадоў з дня нараджэння К. А. Алексютовіча (1884—1943), беларускага балетмайстра. (Здзейсніў першыя балетныя пастаноўкі на беларускай сцэне).

**21**

50 гадоў назад (1924) памёр Уладзімір Ільіч Ленін.

**26 студзеня — 10 лютага**

40 гадоў назад (1934) адбыўся XVII з'езд ВКП(б).

**27**

60 гадоў з дня нараджэння (1914) Р. А. Анчыкава, беларускага кампазітара.



Р. А. Анчыкаў.

**27 студзеня — 5 лютага**

15 гадоў назад (1959) адбыўся XXI з'езд КПСС.

**28**

60 гадоў з дня нараджэння (1914) Я. Р. Чамадурава, народнага мастака БССР, заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР, Літоўскай і Таджыкскай рэспублік, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР.

**31**

50 гадоў назад (1924) II з'езд Саветаў Саюза ССР зацвердзіў першую Канстытуцыю СССР.

**Студзень**

70 гадоў назад (1904) утварыўся Палескі камітэт РСДРП.

70 гадоў з часу ўтварэння (1904) у Віцебску групы РСДРП.

60 гадоў з часу выхаду (1914) у Мінску першага нумара часопіса для юнацтва «Лучынка».

50 гадоў з часу стварэння (1924) Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ) на І канферэнцыі КСМЗБ.

30 гадоў з часу выхаду (1944) першага нумара літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Беларусь», органа Саюза пісьменнікаў БССР.

25 гадоў назад (1949) Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту прысвоена імя У. І. Леніна.



Я. Р. Чамадураў.







# ЗАГАДКА ЧАЛАВЕКА

Спрадвеку самай вялікай і таямнічай загадкай быў чалавек. Стагоддзямі імкнуцца філосафы, мастакі, пісьменнікі разгадаць яе. Але, відаць, колькі будзе жыць чалавецтва, столькі будзе існаваць і гэтая загадка, вытканая самой прыродай з такіх парадоксаў, процілегласцяў, фарбаў, што кожны дзень дзесяткі, сотні мільёнаў людзей ідуць у тэатры, кіно, бяруць у рукі кнігі, гадзінамі сядзяць каля тэлевізараў, каб разабрацца ў ім, чалавеку.

Ну, а калі гэта не проста чалавек, а талент? Загадка робіцца яшчэ больш прывабнай і таямнічай. Чаму? Чаму ён бачыць тое ж самае, што і мы, але не так, як мы, а інакш? Сто разоў ты безуважліва праходзіў, сто разоў бачыў і чуў гэта і раптам — цуд, найвялікшае адкрыццё! І жыццё тваё адразу робіцца цікавейшае і багацейшае. І зрабіў гэта талент адным дотыкам...

Пра яго кажуць рознае. Адны лічаць яго нейкім злосным, сярдзітым чалавекам, другія — добрым і чулым, трэція — проста дзіваком. А які ён на самой справе — Андрэй Макаёнак? Адказаць адназначна немагчыма. Ён можа быць і злосны, і добры, і чулы—у залежнасці ад абставін і ад таго, з кім мае справу. Відаць, такая зайздросная шматграннасць характару ідзе ад прафесіі. А прафесія гэтая...

Калісьці В. Бялінскі назваў драму паэзіяй у самым высокім сэнсе гэтага слова. У такім выпадку—сёння гэта разумеюць ужо амаль усе—камедыя ды яшчэ сатырычная — вяршыня таго, што В. Бялінскі з поўнай на тое падставаю і з глыбокім разуменнем драматычнага мастацтва называў высокай паэзіяй.

Майстэрства сатырыка-камедыёграфа нагадвае прафесію эквілібрыста, які «працуе» на вачах у гледачоў без усялякай падстрахоўкі. Празмерна асцярожнічаеш — не толькі не смешна: якая ж без смеху сатыра? — але нават і трохі няёмка за «эквілібрыста». Не хапае духу—не лезь наверх! Забыўся пра асцярожнасць, захапіўся празмерна і... Страхоўкі ж няма!

Я ўкладваю ў гэта не толькі чыста мастацкі сэнс. Сатыра—гэта заўсёды прыгавор некаму і нечаму. І вельмі важна, каб ён заўсёды быў прыцэльна скіраваны па адрасу і заўсёды быў справядлівы... Аднойчы грамадзянін Арыстафан напісаў камедыю «Воблакі», дзе паказаў грамадзяніна Сакрата (Сакрата!) смешным, неразумным філосафам, што стварае новых багоў і намагаецца правесці ў жыццё новыя прынцыпы выхавання моладзі, якія (прынцыпы) нібыта несумяшчальныя з патрабаваннямі грамадства. Праз дваццаць чатыры гады афіняне на падставе абвінавачванняў, якія былі прад'яўлены Сакрату ў «Воблаках», прыгаварылі апошняга да... пакарання смерцю. Вось вам і камедыя.

І тым не менш Андрэй Макаёнак... піша сатырычныя камедыі. Вось і сёння ў дзесятках тэатраў краіны ідуць адразу чатыры яго п'есы: «Лявоніха на арбіце», «Трыбунал», «Зацюканы апостал» і «Таблетку пад язык». І ўсе чатыры — сатырычныя камедыі...

Сядзім побач ужо трэцюю гадзіну запар. Спрабую браць «сур'ёзнае» інтэрв'ю. Не атрымліваецца.

— Ведаеш, што такое смех? — раптам пытае ён. — Гэта ж самы магутны рухавік і паскаральнік прагрэсу, усё адно што кіруемая тэрмаядзерная рэакцыя! Калі грамадства вагаецца, выбіраючы сродкі ўздзеяння, яно накіроўвае туды сатырыка з пяром-скальпелем. У адрозненне ад хірурга, ён працуе без наркозу, але той боль, які ён наносіць грамадскаму арганізму — гаючы боль, неабходны. Сатыра — вельмі горкая, але карысная, неабходная мікстура.

Тэарэтыкі камедыі сцвярджаюць, і я, практык, згодны з імі, што прыйдзе час, калі грамадства рашуча адмовіцца ад некаторых мер перавыхавання, пакінуўшы самы дзейсны, самы грозны і ў той жа час самы гуманны сродак грамадскага ўздзеяння на чалавека — смех.

Жыццё — гэта няспынная барацьба дабра са злом. А што можа быць больш страшнае і гібельнае для зла, чым адзін толькі той факт, што яно ўжо ўбачана, разгледжана, высмеяна, публічна асвістана? Прымусіць чалавека засмяяцца з бога Апіса, значыць... значыць, расстрыгчы яго са святога сану ў простыя, звычайныя быкі. Ты не памятаеш, хто гэта вельмі трапна сказаў: смех расхістаў каралеўскія і царскія троны, садзейнічаючы рэвалюцыйным пераўтварэнням грамадства?

— Герцэн...

— А ўспомні Дантэ, Свіфта, Рабле, Эразма Ратэрдамскага, Гогаля, Салтыкова-Шчадрына! Ці вазьмі «Карабель дурняў» Себасцьяна Бранта.

І чытае па памяці:

Что было встарь недопустимо,
Теперь терпимо, даже чтимо!
Считалось ведь не без причин,
Что борода — краса мужчин.
А ныне, кроме деревенщин,
Не отличишь мужчин от женщин:
На всех помада и румяна
(Раб моды — та же обезьяна!)

— Хіба гэта не пра сённяшні дзень сказана? А напісана, напісана калі? У 1494 годзе! Амаль пяцьсот гадоў назад!

— Чакай, чакай, Андрэй Ягоравіч... Усе, каго ты назваў зараз, жылі і пісалі ў той час, калі сапраўды трэба было «расхістваць трон».

— Правільна! Цяпер у сатыры зусім іншае сацыяльнае прызначэнне: сцвярджаць станоўчыя ідэалы шляхам адмаўлення негатыўных. Сцвярджэнне праз адмаўленне! Вядома ж, станоўчага ў нас у дзесяткі, сотні разоў больш, чым адмоўнага. Але... Чым ярчэй свеціць сонца, тым больш прыкметнымі робяцца розныя плямы і плямкі. Пры суцэльнай шэрасці іх бы проста ніхто не заўважыў. Важнейшы паказчык дэмакратычнасці дзяржавы, грамадства, грамадскага здароўя — сатыра.

— Прабач, Андрэй Ягоравіч, Карл Маркс трохі інакш сказаў: узровень сатыры сведчыць аб узроўні дэмакратыі ў грамадстве!

— Іменна гэта я і меў на ўвазе. Калі грамадства дазваляе сабе смяяцца, жартаваць з уласных недахопаў, значыць, яно моцнае грамадства, значыць, яно верыць у свае прынцыпы, ідэалы, верыць у сваіх грамадзян! Боязь сатыры, як сведчыць гісторыя, — найпершая прыкмета слабасці. Ва ўсе часы сатыра каралася, як найвялікшая крамола. І толькі ў нас, у сацыялістычным грамадстве, яна набыла правы грамадзянства.

— Я б сказаў больш: прынята дзяржавай, партыяй на ўзбраенне. Проста немагчыма ўявіць, каб у капіталістычнай краіне сатырык, роўны Андрэю Макаёнку, быў бы дэпутатам парламента, каб у 50 гадоў яго ўзнагародзілі ордэнам, прызначылі рэдактарам часопіса, пасылалі ў замежныя паездкі...

Ён смяецца.

— А што? Сапраўды, гэта і ёсць дзяржаўная, партыйная падтрымка сатыры! Успомні іншае... На кожным партыйным з'ездзе ці пленуме, дзе гутарка заходзіць пра літаратуру, пра яе вялікую ролю ў выхаванні чалавека, абавязкова падкрэсліваецца неабходнасць развіцця ўсіх форм крытыкі і самакрытыкі. У тым ліку і сатыры. І не проста падкрэсліваецца, а прама ўказваецца, што сатырыкі не павінны разменьвацца на дробязі, як кажуць, страляць з гармат вялікага







З Б. В. Платонавым і І. Ф. Ждановіч. 1962 год.

калібру па вераб'ях, а працаваць буйна, праблемна! І тым самым садзейнічаць камуністычнаму будаўніцтву, выхаванню чалавека высокай маралі, высокай грамадзянскасці.

— Усё гэта правільна, Андрэй Ягоравіч, але мы з вамі недаравальна пакрывілі б душой, зрабіўшы выгляд, што ў нас увогуле не існуе праціўнікаў сатыры. Пагадзіцеся, што сярод некаторай часткі гледачоў, крытыкаў, тэатральных работнікаў існуе нейкая насцярожанасць у адносінах да сатыры...

— Дадай сюды — і сярод некаторай часткі чыноўнікаў ад мастацтва, якія нібыта хочуць абараніць грамадства ад «ачарніцельства»!

— Вось-вось! Чым ты гэта можаш растлумачыць, калі і дзяржава і партыя за сатыру?

— Мне думаецца, *што гэтая насцярожанасць*, падазронасць да сатыры паходзіць ад няправільнага разумення функцый мастацтва, у тым ліку і сатыры. Гэтыя людзі хацелі б бачыць у кожным творы мастацтва інструкцыю, што трэба рабіць, а што не трэба. А ў мастацтва сваё прызначэнне, і прырода яго зусім не такая, як, скажам, у публіцыстыкі. Драматург не вырашае і не можа вырашаць праблемы. Ён прыцягвае да іх грамадскую ўвагу, звяртаецца да нашых пачуццяў, сэрцаў, падказваючы адзін з магчымых шляхоў вырашэння праблемы. Вырашаць праблемы павінны зусім іншыя інстанцыі. Гэта ўжо не сфера мастацтва.

*Калі я напісаў* п'есу «*Лявоніха на арбіце*», *многія* крытыкі папракалі мяне за адрыў ад грэшнай рэчаіснасці. Маўляў, у нас яшчэ многа іншых праблем, а ты ўжо хочаш, каб калгаснікі адмаўляліся ад асабістай жывёлы, ад прысядзібных участкаў. А, між іншым, у п'есе размова ішла аб шкодзе прыватнаўласніцкай псіхалогіі, аб тым, як гэта сумна, калі ў чалавеку «маё» бярэ верх над «нашым».

— Іншы раз прыходзіцца сустракаць крытыкаў, якія, паглядзеўшы сатырычную камедыю, аўтарытэтна, безапеляцыйна заяўляюць: у жыцці так не бывае! Занадта вы ўсё завастрылі і загіпербалізавалі! Гэта што, прататыпы вашых герояў, якім не хочацца пазнаваць сябе ў сатыры?

— Каб жа толькі яны! Але і людзі, якія не разумеюць прыроды мастацтва. А яно ўсё цалкам трымаецца на «перабольшванні» і «завастрэнні». «Редкая птица долетит до середины Днепра...» Што гэта, калі не гіпербала? Але мы ўспрымаем яе, яна ніколькі не бянтэжыць нас, не шакіруе! Або вось яшчэ: «Я помню чудное мгновенье, передо мной явилась ты, как мимолетное виденье, как гений чистой красоты...» Гіпербала, ад якой звіняць усе струны душы. Вядома, звіняць у таго, хто любіць і разумее паэзію, разумее прыроду мастацкай гіпербалы.

Гіпербала, завастрэнне, гратэск, а часам і адкрыты фарс—соль сатыры, соль камічнага. Падкрэсліваючы, утрыруючы адну з рысаў камедыйнага характару, даводзячы яе да абсурду, аўтар тым самым выказвае свае адносіны да героя. Вельмі добра і трапна сказаў пра гэта ў сваім артыкуле, які быў апублікаваны ў «Правде» 31 сакавіка 1972 года, В. Плучак: «Дакараць яе (сатыру) за гэта—усё роўна, што крытыкаваць мікраскоп за тое, што ён вельмі «перабольшвае» памеры мікроба, а не паказвае яго ў натуральную велічыню. Мікроб трэба ўбачыць, інакш з ім немагчыма змагацца». Разумееш, мікроб трэба ўбачыць і не проста ўбачыць, а добра такі разглядзець. Разглядзець самому і паказаць яго гледачу.

Не памятаю дакладна, але Максім Горкі пра праўду жыцця і праўду мастацтва сказаў, што гэта не адно і тое ж.

— Ён сказаў, што факт жыцця—гэта жывая курыца, а факт мастацтва—гэта тая ж курыца, але толькі абскубеная і звараная.

— Ну, вядома, такіх закончаных ідыётаў, як галоўначпупс Пабеданосікаў, у прыродзе не існавала і не магло існаваць—гэта характар, даведзены да абсурду. Памятаеш? «Не могла себе даже хахалей найти сообразно моему общественному положению!..» Памятаеш яго адказ рэжысёру?.. «Действия?! Какие такие действия? Никаких действий у вас быть не может. Ваше дело показать, а действовать, не беспокойтесь, будут без вас соответствующие партийные и советские органы... Надо показывать светлые стороны нашей действительности. Взять что-нибудь образцовое, например, наше учреждение, в котором я работаю, или меня, например...» Канкрэтнага, рэальнага Пабеданосікава не было, а колькі бюракратаў пазнала ў ім сябе. Дзякуючы гіпербале, гратэску.

— Я згодзен з табой, Андрэй Ягоравіч. Мастацтва—гэта актыўнае творчае адлюстраванне рэчаіснасці. Праўдзівы вобраз у мастацтве не тоеснасць, а адэкватнасць жыццёвай з'явы. «Меднага конніка» не існуе, існуе бронзавы. Але Пушкін не пабаяўся назваць яго іменна медным. Мцыры ніяк не мог уступіць у бойку з барсам, паколькі на Каўказе барсаў ніколі не было і няма, там ёсць мядзведзі. Але Лермантаў узяў усё ж не мядзведзя, а барса...

— Ну што ты! Паэмы не было б з мядзведзем!

— Згодзен, не было б. І такой нізкай столі, якую мы бачым у карціне «Меншыкаў у Бярозаве» таксама не магло быць...

— А зрабіў бы Сурыкаў яе трохі вышэй, і прапаў бы самы галоўны эфект карціны—змрочная, прыгнечаная атмасфера!

— Андрэй Ягоравіч, а як ты ставішся да спрэчак драматургаў і крытыкаў аб суадносінах «станоўчага» і «адмоўнага» ў сатырычнай камедыі?

— Ха! Каб жа толькі драматургі і крытыкі пра гэта спрачаліся! Я ж асабіста тут не бачу анiякага прадмету для спрэчак, паколькі ў мастацтве няма застылых канонаў, прапорцый і гатовых рэцэптаў. Мастацтва кожны раз—адкрыццё. А потым, я лічу падзел людзей на «станоўчых» і «адмоўных» глыбока памылковым. Людзі ўсе шматколерныя, адной або дзвюма фарбамі героя не намалюеш. Аднойчы адзін мой знаёмы сказаў мне: чаму ў тваіх камедыях так многа адмоўных герояў? А колькі трэба, пытаюся. Ну хоць бы, кажа, адзін да аднаго, а яшчэ лепей—адзін да трох, на аднаго адмоўнага, скажам, тры станоўчыя. Вось тады б суадносіны сіл у камедыі адпавядалі б суадносінам сіл у жыцці.

— І што ты яму на гэта адказаў?

— Я сказаў яму: «Значыць, ты лічыш, што з 250 мільёнаў жыхароў Савецкага Саюза 188 мільёнаў—станоўчыя, нармальныя людзі, а 62 мільёны—нягоднікі?» Пабег ад мяне, нават не развітаўшыся... Бачыш, наколькі небяспечная рэч арыфметыка ў мастацтве. Небяспечная і непатрэбная.

Меркаваць аб грамадстве па аднаму твору мастацтва, тым больш сатырычнаму,—нельга. Абагульненні тут не падыходзяць. Любы твор, нават самы таленавіты, раскрывае толькі адну з'яву ці комплекс блізкіх з'яў. Намаляваць агульную карціну жыцця грамадства можа толькі ўся літаратура, усё мастацтва.

— Хачу ўдакладніць адну дэталь, Андрэй Ягоравіч. Для мяне асабіста гэта вельмі важна... Значыць, ты лічыш, што магчыма і такая камедыя, дзе ўсе дзеючыя асобы—адмоўныя?

— Ну, вядома! Хіба не можа быць, скажам, сатырычнай камедыі пра шайку злоўленых за руку злодзеяў, калі іх жыццё нагадвае вайну скарпіёнаў? Галоўнае ў сатырычнай камедыі не «арыфметыка», не «правільныя» суадносіны «станоўчых» і «адмоўных» герояў, а пазіцыя аўтара, рэжысёра, тэатра. У імя чаго напісана п'еса? Што яна адмаўляе і што сцвярджае? Ніхто ж не стане сур'ёзна даказваць, што «Лазня» Маякоўскага... прапагандуе бюракратызм толькі таму, што галоўным героем яе з'яўляецца Пабеданосікаў! Галоўны герой сатырычнай камедыі—гэта смех, смех, які знішчае, ачышчае і ўзвышае.







З Андрэем Вазнясенскім. 1973 год.

Сатырык жа—не пабочны назіральнік, не высмаляка, не ачарніцель (а іменна такімі «ачарніцелямі» нас, сатырыкаў, хочуць зрабіць ваяўнічыя абывацелі!), ён баец, грамадзянін. У яго, як і ў пісьменніка, які піша «станоўчыя» творы, адна задача: садзейнічаць прагрэсу ў сваім грамадстве, выхоўваць чалавека, рабіць яго больш моцным, мужным, сумленным, высакародным. Працуючы сваімі спецыфічнымі сродкамі, высмейваючы глупства, хлусню, бюракратызм, кансерватызм, грамадзянскую пасіўнасць, абыякавасць, мяшчанства (а хто скажа, што гэтых заганаў у нас ужо зусім няма?), сатырык сцвярджае нашы, савецкія, камуністычныя ідэалы. Яго творчасць максімальна класавая па пазіцыі. Інакш кажучы, дабро павінна быць з добрымі кулакамі. Інакш яно не вытрымае барацьбы са злом.

— Значыць... трэба падтрымліваць усякую сатыру?

— Э, не!.. Я гэтага не сказаў. У апошні час у нас з'явілася шмат ілжэкамедый, камедый-пустышак. На жаль, яны, як правіла, зроблены людзьмі вопытнымі ў драматургіі, па-рамесніцку пісьменна. Некаторыя з гэтых аўтараў паставілі драматургію на канвеер,—каб толькі як мага хутчэй і як мага больш! Бываюць у іх камедыі і нават смешныя, і дасціпныя, я ж кажу, што робяць іх неблагія рамеснікі. А прыгледзішся да іх сатыры больш пільна—і бачыш, што там самая галоўная праблема... цвік у абцасе абывацеля. Не, я не супраць гумару, усмешкі і пацяшальнай камедыі. Але і яна павінна несці вялікую думку, а не казытаць нервы абывацеля, заманьваючы гледача прывабным словам «камедыя». Без высокай думкі няма і не можа быць мастацтва!

Увогуле, павінен сказаць, што роля драматурга ў наш час выключна адказная. Кожны вечар тысячы чалавек прыходзяць паслухаць і паглядзець цябе. А ці маеш ты права адбіраць у тысяч людзей тры гадзіны дарагога вячэрняга часу, тры гадзіны іх жыцця? Што ты ім прапануеш? Якія думкі і праблемы? Ці цікавы ты ім як асоба, як грамадзянін, як мастак?.. Сучасны чалавек вельмі складаны, адукаваны, *культурны, прапісныя ісціны яму не патрэбны.* Каб даць максімум таго, што павінна даваць чалавеку вялікае мастацтва, пісьменніку трэба спусціцца ў такія глыбіні чалавечай душы і здабыць там такое!.. Калі падумаеш пра гэта, проста страшна робіцца за сябе: а ці здольны ты на гэта?..

І вось тут я задаў яму гэтае пытанне... Я спытаўся пра тое, што, на маю думку, павінна было хоць крыху растлумачыць «загадку Макаёнка».

— Андрэй Ягоравіч, што ты лічыш галоўным для сябе, як для драматурга, як для пісьменніка ўвогуле?

На ўсе пытанні ён адказваў адразу, не задумваючыся. А вось тут задумаўся, устаў, прайшоўся па пакоі, пастаяў каля кніжных паліц і зноў вярнуўся да стала.

— Вочы і душу дзіцяці... Дзіцячую наіўнасць, дзіцячую цікаўнасць да ўсяго. Дзіцячае здзіўленне і захапленне. І абурэнне таксама. Вось захаваць гэта ў сабе да канца дзён сваіх—самае галоўнае для пісьменніка, кім бы ён ні быў—паэтам, празаікам або драматургам...

І я адразу зразумеў, чаму ён напісаў «Зацюканага апостала», якога я лічу пакуль што вяршыняй усёй яго творчасці (у той час, як не цалкам магу прыняць

яго «Трыбунал», нягледзячы на мільён хвалебных рэцэнзій!) Ён проста не мог яго не напісаць. Калі б галоўным героем «Зацюканага апостала» быў не Малыш, не дзіцё, а дарослы чалавек, п'еса стала б элементарнай агіткай на тэму: «Распад і загніванне праклятага капіталізму на прыкладзе адной звычайнай сям'і прыстойнага, у меру багатага буржуа».

Не! Ён прымусіў нас, вопытных, спакушаных, умудроных веданнем жыцця (выбух інфармацыі!), зірнуць на гэты страшны, пачварны свет светлымі вачыма дзіцяці. І мы ўбачылі не проста яшчэ адну гісторыю яшчэ адной сям'і «адтуль, з таго боку» і на яе тыповым прыкладзе—сённяшні і заўтрашні дзень капіталістычнага грамадства. Мы ўбачылі трагедыю Сумлення, несумяшчальнасць Сумлення з тым светам. Больш таго—мы ўбачылі смерць Сумлення, трагічную і страшную. І драматург і тэатр зрабілі гэта проста выдатна. Я бачыў «Зацюканага апостала» і ў тэатры імя Я. Купалы, і ў тэатры Сатыры і мушу сказаць, што параўнанне не на карысць славутага маскоўскага тэатра...

У той вечар мы многа гаварылі пра яго замежныя паездкі. А ён двойчы быў у Амерыцы, а таксама на Кубе, у Гане, В'етнаме, Манголіі, Іране, Балгарыі, Югаславіі, Іспаніі, Польшчы, Фінляндыі, Францыі, Венгрыі. І як гэта цудоўна што ў чалавека і на шостым дзесятку жыцця захаваліся дзіцячыя вочы, дзіцячая душа, святая дзіцячая наіўнасць!.. Гэта нельга перадаць, гэта трэба было чуць, як ён гаварыў:

— Ты разумееш... Адзін «Фантом» каштуе пяць мільёнаў долараў, якраз столькі, колькі першакласная бальніца з навейшай медыцынска-тэхнічнай «начынкай»! Адзін іх ракетаносец—512 мільёнаў долараў! А навошта? Навошта ўсё гэта?.. Супраць нас? Абсурд!

Далей адбылося нечаканае і для мяне, і, відаць, для яго таксама. Я ведаю, як не любяць пісьменнікі расказваць пра свае няскончаныя творы, як баяцца, каб не «сурочылі». А ён раптам сказаў:

— Ладна. Так і быць... Слухай...

І пачаў чытаць новую, яшчэ не закончаную п'есу. Яшчэ і зараз я знаходжуся пад уражаннем пачутага, хоць часу з таго вечара прайшло ўжо шмат. Мне вельмі хацелася б расказаць чытачам «Маладосці», што гэта за п'еса і пра што яна, але... не маю права. Скажу толькі адно: калі п'еса (зноў камедыя і яшчэ якая!) будзе вытрымана на ўзроўні тых сцэн, якія я чуў, яна стане новым словам у савецкай драматургіі і па свайму незвычайнаму зместу, і па сваёй незвычайнай форме.

**Мікола МАТУКОЎСКІ.**

Фота **У. Крука** і **А. Дзітлава.**

■■■





*Да 60-годдзя*

*Аляксея КУЛАКОЎСКАГА*

# ХЛЕБ ДАБРАТЫ

Здаецца, учора гэта было.

Я, студэнтка-выпускніца Беларускага дзяржаўнага універсітэта, працую ў «Чырвонай змене» радыстскай. Заняткі ва універсітэце з дзевяці раніцы да трох дня, работа ў рэдакцыі— з сямі гадзін вечара да дзвюх—трох ночы. Гадзіны тры — на сон, паўтары — на пешае падарожжа з Нямігі да Дома друку і назад па ўшчэнт зруйнаваным горадзе, нейкая скупая гадзіна на падрыхтоўку да заняткаў у перапынку паміж сеансамі радыёперадач...

Але сядзеш да прыёмніка, настроішся на сваю хвалю — і паплыве, пальецца табе проста ў душу напружаны ад хвалявання голас дыктара: «...Нашы войскі, пераадольваючы ўпартае супраціўленне праціўніка, фарсіравалі раку...», «...авалодалі горадам...», «...разграмілі вялікую групоўку праціўніка...» «У азнаменаванне... салют дваццаццю артылерыйскімі залпамі з двухсот дваццаці чатырох гармат...»

Гаючая музыка перамогі праганяе стому, аднекуль з самае глыбіні істоты падымаюцца новыя сілы, бадзёрасць, яны поящь жыццём стомленае цела, і пішаш, запісваеш да глыбокае ночы тое, што заўтра людзі будуць чытаць у газеце, а літары — аж скачуць ад радасці.

Прынята, перакладзена і здадзена ў друк зводка Саўінфармбюро пра ўзяцце рэйхстага. Мяне выклікае адказны рэдактар «Чырвонай змены» Іван Аляксандравіч Матыль, якога мы, чырваназменаўцы, за дабрату і справядлівасць між сабою называлі— Бацька.

— Думаем пасадзіць вас на стыль,— без ніякіх прадмоў гаворыць ён рашуча.— Так што з заўтрашняга дня...

— Іван Аляксандравіч, ды я ж...

— Навучыцеся. А калі што, дык вось,— ён кіўнуў непаслухмяным чубам, што заўсёды звісаў на лоб, на свайго намесніка Васіля Емяльянавіча Бурносава,—Васіль паможа.

І вось я з дапамогай Васіля Емяльянавіча «саджуся на стыль». Навыку літаратурнай праўкі няма, густ недасканалы, а тут яшчэ колькі выходзіць перыядычных выданняў, столькі існуе і моў: у кожнага выдання—свая мова. Разнабой страшэнны, калька разраслася, як пустазелле ў вайну... У каго вучыцца? Чаму?

Відаць, ва ўсіх. Усяму лепшаму.

«Звязда», «Калгасная праўда», «Советская Белоруссия», «ЛіМ», «Беларусь», «Полымя» — ад першае да апошняе старонкі перачытваю ўсе гэтыя выданні, каб адчуць іх стыль, выкіравацца на свой. Вычытаеш свежае, трапнае, незацяганае слова — яно пакліча за сабою з памяці другое. Глядзіш, і сказ, які ты паправіш, гучыць свяжэй, натуральней, заметка ці артыкул чытаецца цікавей.

Так, вучачыся ставіць кожнае слова на сваё месца, у адным з нумароў часопіса «Беларусь» за 1945 год я натрапіла на прозвішча Аляксея Кулакоўскага. Апавяданне называлася «Мікіта Мінавіч». Я прачытала яго раз, вярнулася і прачытала другі, і мяне ўразіла прастата і натуральнасць яго інтанацыі. Пра вялікае ў чалавеку — і так ціха, так проста. Ды ў такі гучны, такі ўрачысты час... Але гэты ціхі голас добра чуваць, як бывае чутна за вясёлым святочным сталом ціхая гаворка пра хлеб, пра поле...

Я запомніла прозвішча аўтара апавядання і пачала сачыць за яго творамі, што паяўляліся ў друку. «Стары млын», «Нямко», «Сад», «Шляхамі жыцця» — усё той жа, што і ў «Мікіце Мінавічу», непаспешлівы голас, усё тое ж уважлівае ўзіранне ў жыццё не з вышыні і не з адлегласці, а неяк вельмі зблізку, рэальнасць, пластычнасць намаляваных карцін,— ды што ён за чалавек, гэты Кулакоўскі, хто ён? — пытаюся ў сваіх чырваназменаўцаў.

— Ну, хто?.. Журналіст. Працуе ў «Сталінцы» (так мы называлі тады «Сталинскую молодежь», цяпер «Знамя юности»)... Высокі такі, танклявы, ходзіць у ваеннай гімнасцёрцы... Вось пойдзем па зарплату на чацвёрты паверх — пакажам...

У той жа дзень яны і «паказалі» мне яго. Ён стаяў ля дзвярэй пакойчыка, у якім змяшчалася рэдакцыя часопіса «Беларусь», і з некім размаўляў. Высокі, танклявы, у ваеннай гімнасцёрцы, падпяразанай поясам, пад якім — ніводнае зборачкі там, дзе яе і не павінна быць, начышчаныя да бляску боты — з усім гэтым выглядам нядаўняга вайскоўца і чалавека немалой, відаць, унутранай дысцыпліны неяк вельмі натуральна спалучалася сялянская непаспешлівасць, разважлівасць, ціхая паважная гаворка. Я неяк вельмі выразна адчула: гэты чалавек напісаў і «Нямка», і «Сад», і «Мікіту Мінавіча». Цяпер, калі я ведаю Аляксея Мікалаевіча як чалавека і пісьменніка, калі добры лёс звёў нас некалі, і мы папрацавалі разам у «ЛіМе», а пасля ў «Маладосці» не адзін год, мне думаецца, што, можа, ні ў кога з нашых беларускіх пісьменнікаў чалавечая натура не адбілася ў творчасці так непасрэдна і поўна, як у яго. Адсюль тая шчырасць, якая ўласцівая лепшым творам Аляксея Кулакоўскага, адсюль і ўся адметнасць яго пісьменніцкага слова.

У 1947 годзе выйшаў з друку першы зборнік Кулакоўскага «Сад». У сабраных пад адною вокладкай апавяданнях неяк адразу і вельмі відавочна акрэслілася своеасаблівасць яго таленту. Крытыка ў асноўным прыхільна загаварыла пра маладога пісьменніка, пра яго ўвагу да простага чалавека, да яго жыцця. Мне ж асабіста за словам Аляксея Кулакоўскага, за яго поглядам на чалавека, за яго адносінамі да жыцця і ў зборніку «Сад», і ў пазнейшых апавяданнях убачыўся Кузьма Чорны. Малады празаік ішоў за ім не зблізку, а здалёк, назіркам і вучыўся ў вялікага ўмельца араць жыццёвае поле не выбарачна, а падрад, не абмінаць, кладучы баразну, і карча ці пня, калі ён трапіцца на дарозе.

Ужо ў адным з першых апавяданняў пісьменніка «Сад» дэмабілізаваны воін Несцер, што прыйшоў з вайны, уступае ў канфлікт з калгасным рахункаводам Сеўруком, які, грэючы рукі ля калгаснага дабра, пагардліва адносіцца да людзей, на кожным кроку пагражае ім судом. Старая Хвядосіха назбірала ля калгаснага гумна прыгаршчаў двое пацярухі карове, і Сяўрук каршуном на яе наляцеў: «Прыструнім... пад суд... пяць год за гэта атрымаеш».

«Несцер Селівестравіч глядзеў на Хвядосіху, на яе мокры хвартух, з якога яна толькі што высыпала пацяруху, і думаў, што цяпер, мусіць, тут не адна такая сям'я, у якой калі ёсць карова, дык пракарміць яе няма чым, а хто без каровы, то і самому хоць зубы на паліцу. Хвядосіха не з дабра пайшла збіраць мокрую пацяруху. Мусіць, толькі адзін Сяўрук не верыў гэтаму».

Вось у гэтым спачуванні чалавеку, разуменні яго жыцця і заключалася дзейсная сіла апавяданняў Кулакоўскага. Яно, гэтае спачуванне і разуменне, звязвала маральна-этычную пазіцыю пісьменніка з мараллю народнай, з народным поглядам на свет, на жыццё. Бо разуменне заўсёды расцэньваецца ў народзе як найвышэйшы дзейсны акт: зразумець — значыць ужо нечым памагчы.

Аднак Сеўрука пісьменнік толькі не выпускае з поля зроку,— глядзіць жа ён не на яго. Усенародны ўздым, выкліканы перамогай над ворагам, аднаўленне жыцця, разбуранага вайной, пафас працы, спалучаны з пафасам патрыятызму,— вось маральная атмасфера ранніх апавяданняў Аляксея Кулакоўскага. Мікіта Мінавіч, герой аднайменнага апавядання, з прыходам нашых як узяў у рукі сякеру, так і не выпускае яе. Аж злізалася ўся. Людзям жыць няма дзе, а ў іх дзеці... Як жа з дзецьмі без кутка... А герой другога апавядання, Несцер («Сад»), гаворыць: «Мне хочацца, каб уся наша зямля цвіла краскамі, зелянела, каб было на ёй такое жыццё, аб якім кожны з нас марыў у акопах».

Помню, мяне вельмі ўразіла гэтая сякера Мікіты Мінавіча. І ў нашай «Чырвонцы», і ў іншых газетах і часопісах у той час друкавалася многа апавяданняў і нарысаў пра будаўнікоў. Як ужо, бывала, распісвалі сваіх герояў пісьменнікі і журналісты! Але ніводзін з іх не знайшоў для свайго героя такой ёмістай, такой шматзначнай дэталі, як гэтая сякера, што злізалася ад работы.

Мастацкая дэталь стала ў далейшым любімым «каньком» Аляксея Кулакоўскага. Яна была тым творчым імпульсам, які даў жыццё многім яго цудоўным творам, у тым ліку і аповесці «Нявестка»; яркая і прывабная, яна ж часам і зманьвала яго, водзячы па няплённых сцежках. У апавяданні «Радзіны ў Забродскіх», напрыклад, шмат маляўнічых падрабязнасцяў. З цікавасцю чытаеш пра тое, як стары Талімон у разводдзе прыплыў у госці да кума ў суседнюю вёску на сваім плятні. Альбо як Іван Забродскі ў завіруху ўсю ноч ездзіў на санях па сваім двары, а хаты не знайшоў. Толькі калі развіднела, ён убачыў, што два разы пераехаў яе — так замяло снегам.

Яркія самі па сабе, гэтыя дэталі не толькі слаба «высвятляюць» асноўную думку апавядання, але сваёй яркасцю нават адцягваюць увагу ад яе. Здаецца нават, што апавяданне і пісалася дзеля іх. Ды і аповесць «Дабрасельцы», якая прынесла пісьменніку шмат непрыемных клопатаў, таксама шмат траціла ад мноства неабавязковых, неасэнсаваных дэталяў, якія не давалі прабіцца абагульняючай, сінтэзуючай думцы.

Аляксей Кулакоўскі прыйшоў у літаратуру з журналістыкі і таму адчуваў прыхільнасць да гарачага матэрыялу жыцця. Але, заявіўшы пра сябе ярка і цікава, талент яго не паспеў набраць сілы, каб супрацьстаяць тым павевам, што зносілі ўбок нават сталейшыя за яго таленты. Быў час «Кавалера Залатой Зоркі», «Кубанскіх казакоў», «Шырокіх гарызонтаў», і хоць у некаторых апавяданнях Кулакоўскага («Не выбралі», «Вечар трактарыста», «У брыгадзе Варывончыка») яшчэ адчувалася жывое жыццё з яго рэальнымі супярэчнасцямі, аднак, ратуючыся ад абвінавачання ў «скажэнні жыцця», якое было кінута яму са старонак «Літаратуры і мастацтва» «прынцыповым» ананімам, пісьменнік пачынае спрабаваць пісаць ружовымі фарбамі. У апавяданнях яго паяўляецца гераіня, якая пакутуе ад таго, што не першая прыйшла на поле, герой, які размаўляе вось такою моваю: «Лён тут вырасце, калі мы па-сапраўднаму гэтага захочам і прыкладзём сюды гаспадарскія рукі. Заўтра ж пачынай выгружаць з хлявоў гной і палажы сюды не менш як па дваццаць тон на гектар... Узнімеш зябліва, пачынай рыхтаваць перагной. Зімой вывезеш. Глядзі, каб да вясны ў цябе не было недахопу ў торфе, у курыным памёце, у попеле. І гнаявая жыжа патрэбна. Для падкормкі калійнай солі дастань, гэта я табе дапамагу» (аграном — сваёй звеннявой).

Для пісьменніка псіхалагічнага плана, якім паказаў сябе Кулакоўскі, гэта была здрада свайму таленту, і, пакутліва перажываючы яе, пісьменнік на нейкі час адыходзіць ад «вясковае» тэмы.

Аповесць «Гартаванне», прысвечаная жыццю рабочага класа, на жаль, не заняла значнага месца ў літаратуры, аднак у творчай біяграфіі Аляксея Кулакоўскага station роля яе несумненная. У ёй пісьменнік выйшаў за рамкі «малое формы», асвоіў іншую мастацкую прастору, а гэта вельмі прыдалося яму ў блізкім і далейшым будучым.

Да рамана «Расстаемся ненадоўга» Аляксей Кулакоўскі звярнуўся не толькі таму, што матэрыял для яго, выверaны сваім уласным жыццёвым вопытам, быў пад рукою, але і таму, што яго талент пісьменніка-псіхолага, пісьменніка-аналітыка шукаў вострых жыццёвых калізій.

У рамане знайшлі сваё далейшае развіццё тыя творчыя прынцыпы, якія былі характэрныя для лепшых апавяданняў Аляксея Кулакоўскага. Пісьменнік не шукае выключных сітуацый, выключных характараў, а знаходзіць незвычайнае ў звычайнай будзённай плыні жыцця, у звычайных, нічым, на першы погляд, не прыкметных характарах.

Раман мнагалюдны і шматпланавы. З яго старонак вее подыхам свайго часу, і як выяўленне гэтага часу паўстаюць перад намі яго героі. Андрэй Сакольны, галоўны герой рамана, увабраў у сябе шмат чаго з біяграфіі яго аўтара, аднак аўтар ні ў чым не выяўляе гэтага «сваяцтва». Ён аб'ектыўна паказвае, як чалавек мірнай настаўніцкай прафесіі становіцца спачатку воінам, пасля — камандзірам, і паказвае нялёгкасць гэтага шляху.

Генька Мухаў — баязлівец, а потым здраднік; настаўнік Ілья Ілыч Пераход, якога немцы, эксплуатуючы яго любоў да школы, прыцягваюць да сябе на работу; камісар атрада Труцікаў, непрыкметны, сціплы, які заўсёды бярэ на сябе больш, чым другія; старшыня сельсавета Ладуцька, які імкнецца натхняць народ «пераспектывамі на бліжэйшы час» і слухаючы якога людзі заўсёды смяюцца, а для яго гэта — звыкла і натуральна; настаўнік фізкультуры ў сельскай школе Кабылянчык, адно прозвішча якога гаворыць пра многае,— за ўсімі гэтымі вобразамі стаяла рэальнае жыццё з яго супярэчнасцямі, і адсюль іх мастацкая пераканаўчасць.

Раман быў для яго аўтара вялікай школай. Тут ён удасканальваў майстэрства псіхалагічнага аналізу, правяраў вастрыню і правільнасць свайго пісьменніцкага зроку, выпрабоўваў сваё ўмельства карыстацца разнастайнасцю фарбаў — эпічных, лірычных, драматычных, сатырычных, тут вучыўся складаць асобныя жыццёвыя малюнкі ў па-мастацку завершаную карціну жыцця. І няхай гэтае апошняе ў рамане яму не зусім удалося, але

яно саслужыла вялікую службу для яго будучых твораў.

Пасля рамана «Расстаемся ненадоўга» да Аляксея Кулакоўскага прыходзіць як бы другое дыханне. Яго талент дачакаўся свае пары. Пасталелы ў карпатлівай рабоце, акрылены новай грамадскай атмасферай другой паловы 50-х гадоў, ён набірае новую сілу, разгортвае ўсе свае творчыя магчымасці. Выходзіць з друку аповесць «Нявестка», якая прыносіць пісьменніку добрую і вялікую славу і становіцца вяршыняй яго творчасці.

Кулакоўскаму спатрэбіўся ўвесь папярэдні вопыт — і плённы, і горкі,— каб яго голас загучаў так шырока і вольна. Здзіўляла тое, што матэрыял, які лёг у аснову аповесці, па сваім змесце, па сваім маральным пафасе быў той жа, што і ў яго апавяданнях са зборніка «Сад», але ў аповесці была вышыня ідэйна-мастацкай пазіцыі, на якую падняўся пісьменнік, было святло ідэалу, сцверджанага гарачым словам адмаўлення эгаізму, чэрстваcці, валюнтарызму і ўсяго таго антыгуманнага, антычалавечага, што было так сурова асуджана партыяй.

Тое, да чаго імкнуўся пісьменнік у рамане «Расстаемся ненадоўга», яму ўдалося дасягнуць у аповесці «Нявестка». Гэта—цэласная, па-мастацку закончаная карціна жыцця беларускай вёскі пяцідзесятых гадоў, асэнсаваная з высокіх грамадска-філасофскіх пазіцый. Застаючыся бытапісальнікам, Аляксей Кулакоўскі цяпер аналізуе побыт з пазіцый грамадска-філасофскіх; застаючыся псіхолагам-аналітыкам, ускрывае сацыяльныя карэнні чалавечай псіхалогіі.

Кажуць, жыццё пражыць — не поле перайсці. У пісьменніцкім лёсе Аляксея Кулакоўскага былі свае творчыя ўзлёты, былі і спады. Але, мужна зберагаючы свой талент, кропля па кроплі ўзбагачаючы яго, пісьменнік няспынна ішоў і прыйшоў да сапраўднага мастацтва. У гэтым яго грамадзянскі подзвіг.

Пра чалавечыя якасці Аляксея Кулакоўскага можна гаварыць многа. Многія сёння шырока вядомыя пісьменнікі ўзнімаліся на крыло з яго сяброўскай падтрымкай і дапамогай. Сядзе, бывала, ён, рэдактар «Маладосці», за стол, пакладзе перад сабой рукапіс, побач пасадзіць маладога аўтара і — адно брыво ўгору, другое ўніз — пачне яму паказваць: от тут, братачка, не тое слова, а ў гэтым месцы от так было б лепш, а гэты вобраз нейкі невыразны, можа яго лепш от так павярнуць... Слухалі яго маладыя аўтары і дзякавалі за добрую параду: яна заўсёды была дарэчы.

У гэтым белым зімовым месяцы снежні Аляксей Кулакоўскі ўступае ў сваё паўналецце: яму спаўняецца шэсцьдзесят гадоў. Са старонак «Маладосці», якую ён некалі рэдагаваў і любіў, хочацца сказаць яму:

— Дарагі Аляксей Мікалаевіч! Гады Вашы—у зеніце, поле Ваша ўраблена, сяўня не пустая, рука не скупая. Сейце ж з поўнае адборным слуцкім зернем, і няхай расце на спажыву людзям хлеб Вашае дабраты.

**Вера ПАЛТАРАН.**

■■■





# Гэта ўзважана сэрцам

***Да 50-годдзя Анатоля ВЯЛЮГІНА***

...У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў наша паэзія наблізілася да паўсядзённага жыцця людзей, да яго будзённых, жыццёва важных спраў. Больш даверлівай стала яна і да асобы чалавека, яго перажыванняў, думак.

Анатоль Вялюгін у гэты час, як і многія іншыя паэты, імкнуўся пазбавіцца эклектычнасці ў пачуццях, думках, імкнуўся да шырокага асэнсавання свету. Яго сур'ёзна цікавілі тыя сферы жыцця, якія былі звязаны з герoікай савецкага народа. Пра гэта сведчыць ягоны зборнік «На зоры займае». Але паэт заставаўся вельмі чуйны і да тых глыбінных працэсаў, што адбываліся ў тагачаснай паэзіі. Яго пошукі былі накіраваны на тое, каб выявіць гуманістычны, чалавечы змест гераічнага і ўзвышанага, неяк «ацяпліць» яго пачуццямі нашага сучасніка, адшукаць адпаведныя мастацкія формы.

Крыху пазней, у вершы, які адкрые зборнік «Адрас любві», паэт прызнаецца:

Я заўсёды баюся напышлівых выцвілых слоў,
што звіняць, як жабрацкая медзь у асенняй журбе.
Столькі год на падбор словы плавіць гарачая кроў,
каб я мог у любві найвялікшай прызнацца табе,

Беларусь—мая маці і мова, паветра і хлеб!
Гэта ўзважана сэрцам на нервах расстайных дарог,
дзе не раз пад агнём задыхаўся ад дыму і слеп,
Даставаўся здалёку, слязою абмыўшы парог.

Рамантычнае светаўспрыманне жыцця характэрнае для Анатоля Вялюгіна з першых крокаў яго творчасці. Ужо ў самых першых, даваенных вершах, а потым і ў творах пачатку Вялікай Айчыннай вайны выразна адчуваецца гэтая рыса таленту паэта.

Рудня, лясы Духаўшчыны,
пад бомбамі
Дарагабуж...
Са скарбам брыдуць жанчыны—
тысячы бежанскіх душ.

У адборы рамантычных вобразаў-аналогій Анатоль Вялюгін даволі паслядоўны. Яму імпануюць гэтыя вобразы, яны вызначаюцца ў паэта шырокаю ступенню абагульнення. Прыгадаем верш «Антонію Мачада». У пачатку верша паэт перадае карціну адступлення:

Пад смаленскіх бароў каланады
Машыны ішлі апантаныя...

Затым падаецца ўспамін пра Антоніа Мачада, які памёр на іспана-французскай граніцы, уцякаючы ад фашыстаў. Гэты ўспамін кладзе пачатак паэтычнаму матыву: «Як калісьці твая Гранада, Беларусь лягла за курганамі». У канцы верш набывае публіцыстычны характар, яго апавядальныя інтанацыі перарастаюць у заклікі. Родная Беларусь асацыіруецца ў вершы з вобразам маці: «Стогне маці дзесь за курганамі».

Цікавай старонкай беларускай паэзіі сталі балады Анатоля Вялюгіна. Гэты жанр быў асабліва пашыраны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Барацьба з ворагам нараджала боль і гнеў, расстанне з родным краем—даволі частае адчуванне нейкай вінаватасці перад ім, гатоўнасць ахвяраваць дзеля вызвалення Радзімы нават сваім жыццём.

Пошукамі разнастайных формаў выяўлення геаічнага вызначаецца і другі паэтычны зборнік А. Вялюгіна.

Здаецца сімвалічным тое, што верш «Негарэльская арка», якім адкрываецца зборнік, пачынаецца словамі: «Згадаю ўсё...» Многае цяпер стала бачыцца А. Вялюгіну па-іншаму, але сувязь вершаў новага зборніка з вершамі першага даволі блізкая. Вось, напрыклад, верш «Цягнік Масква—Берлін». У ім ёсць нешта і ад біяграфіі таго юнака, што ўпершыню твар у твар сутыкнуўся з вайною каля Рудні і Дарагабужа:

Разбіты шлях... Страшэнны год...
Мажайска папялішчы...
Над каскамі халодных рот
Халодны вецер свішча.

А вось верш «Калыханка»:

Тыгры блізка ад палаткі,
Мокнуць пад дажджом.
Тыгры ў нас, маё дзіцятка,
Растапталі дом.

У рэцэнзіі на «Негарэльскую арку» ў свой час гаварылася: «Пільны погляд паэта не прапусціў ні «дактрыны Трумэна», ні «плана Маршала», ні «атамнай дыпламатыі», ні звярынага здзеку англа-амерыканскіх імперыялістаў над народамі заняволеных краін. Паэт ведае дакладныя адрасы ўсіх тых, хто цяпер пагражае чалавецтву новымі пакутамі і разбурэннямі, хто ператварыў свае «камбінаты ідэйнай ілжы» ў зброю чалавеканенавісніцтва». Гэты вывад датычыць такіх вершаў, як «Вяршыня на Алтаі», «Таварыш Казлоў у Нью-Йорку», «Гаворыць Вышынскі», «Мердэка», «Пра атам».

Усё гэта вельмі ярка і напружана перададзена ў творах А. Вялюгіна, паэта драматычнага ладу, дакладнага і эмацыянальнага ў слове.

Разглядаючы паэзію А. Вялюгіна саракавых—пачатку пяцідзесятых гадоў, нельга не заўважыць яго імкнення глыбока асэнсаваць грамадска-важныя тэмы.

Чытаючы вершы, якія склалі зборнікі «На зоры займае», «Насцеж», адзначаеш, што ўвагу А. Вялюгіна па-ранейшаму прыцягваюць моманты гераічнага ў жыцці. Паэт сведчыць, што гераічным прасякнуты працоўныя будні савецкіх людзей. Зварот да паўсядзённага жыцця, клопатаў людзей сапраўды ўзбагачаў ягоную паэзію, пашыраў яе гарызонты.

Рамантычны пафас А. Вялюгіна заўсёды грунтаваўся на адчуванні веліччы спраў савецкага чалавека, моцы вялікага брацтва народаў, на разуменні сілы чалавечага розуму. Нават там, дзе паэт арыентуецца на касмічную маштабнасць, вобразы ягоныя добра «заземлены»:

Здаецца мне:
калі цяпер
пад бурай зашумлю,
не я трымаюся, павер,
за чэрствую зямлю,
а на карэннях на маіх—
нябачаны цяжар!—
вісіць у кроплях дажджавых
зямлі зялёны шар.

«Гэта ўзважана сэрцам...»—такім пачуццём прасякнута ўся паэзія Анатоля Вялюгіна—ці то лірычныя і грамадзянскія вершы з усіх яго кніг, ці то паэма «Вецер з Волгі»—хвалюючы твор пра Леніна, дзе талент паэта раскрыўся асабліва ярка.



Не хопіць жыцця змераць просты і праведны шлях
ад падпольных сцяжын, забастовак, пушчанскіх
блакад.
Чуеш, праца грыміць?.. Камуністы твае на пастах:
перад часам і светам—упэўнены чэсны пагляд.

Анатоль Вялюгін вельмі многа і плённа працуе і ў дакументальным беларускім кіно. Па-сутнасці, ён з'яўляецца стваральнікам своеасаблівай сцэнарнай школы дакументалізму. Усе фільмы, створаныя па яго сцэнарыях, выгадна вылучаюцца паэтычнасцю, імпрэсіўнасцю, сваім падыходам да матэрыялу.

Прыкметнай з'явай не толькі нашай дакументальнай кінематаграфіі, а і грамадскага жыцця рэспублікі сталі стужкі «Генерал Пушча», «Арліная крыніца», «А зязюля кукавала...» і інш.

І яшчэ Анатоль Вялюгін—клапатлівы выхавальнік маладой паэтычнай змены. Мы памятаем, як сапраўды па-бацькоўску радаваўся паэт, адчуўшы ў свой час, як запульсавала, забілася паэтычная плынь у вершах маладога тады Рыгора Барадуліна. Памятаем, як ён, узначальваючы аддзел паэзіі «Полымя», падтрымліваў кожнае новае, свежае слова ў нашай паэзіі. А колькі першых кніжак уважліва, строга, клапатліва адрэдагавала ўпэўненая рука гэтага строгага майстра! Колькім пачаткоўцам паказаў ён іх паэтычны шлях—адзіны і непаўторны!..

Ярка, заклапочана, плённа працуе ён, Анатоль Вялюгін, лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужаны дзеяч культуры БССР.

Анатолю Сцяпанавічу Вялюгіну споўнілася пяцьдзесят гадоў. Але паэзія, на нашу вялікую радасць, гадоў не лічыць...

**Аляксей МАЙСЕЙЧЫК.**

**● Васіль ВІТКА**

## *Бог Вал*

— Як жывы-здаровы?
— Памалу.
— Працуеце?
— Да адвалу.

— А з планам як?
— Вельмі ўдала —
Самы высокі бал
па валу.

— Многа гэта ці мала?
— Па валу
няма правалу.

— Па чым жа правал?
— Па завалу.

— Прагрэсіўку
дырэкцыя ліквідавала?
— Што вы,
сама прагрэсіўнаю стала.
Дзякуй богу Валу —
вялікаму інтэлектуалу.



## *Малагабарытны класік*

Сябры! Я — томаўласнік,
Жывы, сапраўдны класік!
Жыву на два тамы,
Нібы на два дамы.

І жыць бы колькі ўлезе,
Як раіць добры розум,
Калі б мая Паэзія
Маю любіла Прозу.

З іх кожная — у томе,
Як гаспадыня ў доме.
Замучылі гаспадара,
Што не магу падняць пяра.

Сказаўшы па сакрэту,
Яшчэ ў мяне ёсць дама,
Прыхільніца паэта,
Завецца дама — Драма.

І Крытыка, як цёшча,
Глядзіць зацятым зверам.
Нязручная жылплошча —
Двухтомная кватэра.

Цярэбяць дамаседа,
Гудуць суладна ўнукі:
— Расказвай казкі, дзеда,
Табе ж і кнігі ў рукі...

Нямала я нажаў бы
Засеяных старонак,
Не мірачы ўсіх жанраў,
Нібы раўнівых жонак.

Не ведаючы меры,
Яны без дай прычыны
Мне грукацяць у дзверы,
Яшчэ часцей — у спіну.

Цярпі і выслухоўвай,
Чаго не падзялілі.
Трашчаць па шву асновы
Сямейнае ідыліі.

Прасіў у бога ласкі,
А мне ў адказ — усмешка:
— Ты добра баяў казкі,
Спявай цяпер пацешкі.—

І так сказаў па часе,
Нібы адрэзаў брытвай:
— Класік то ты класік,
Ды малагабарытны.

На большую кватэру
Не дам табе прапіскі!..
І выкінуў за дзверы.
Я — ў слёзы, ён — н' блізка.

Так без пары, дачасна
Усё мне стала ясна.
Паспець сабраць бы томік
Пакутніку на помнік.




Мал. **С. Волкава.**

## *З Новым годам!*








Малюнкі **У. Конаша, Л. Шукалюкава.**

# НАДРУКАВАНА Ў «МАЛАДОСЦІ» Ў 1973 ГОДЗЕ

## ПРОЗА

**АДАМОВІЧ Алесь, БРЫЛЬ Янка, КАЛЕСНІК Уладзімір.** «Я—з вогненнай вёскі...» Раздзелы з кнігі. VII—14; VIII—12; IX—12; X—14.
**АЛЕШКА Антон.** Васіль Славінскі. Раздзелы з аповесці. II—73.
**БЫКАЎ Васіль.** Дажыць да світання. Аповесць. I—11.
**ГАРБУК Вісарыён.** Старонкі з дзённіка. XI—105.
**ГРАХОЎСКІ Сяргей.** Гарачае лета. Аповесць. II—6; III—8.
**ДЗЯТЛАЎ Алесь.** Ранішні неспакой. Апавяданне. VI—75.
**КАПУСЦІН Аляксандр.** Бомба. Апавяданне. II—90.
**КАРАТКЕВІЧ Уладзімір.** Лісце каштанаў. Аповесць. V—10.
**КОЎЗЕЛЕЎ Мікола.** Жыве чалавек... Апавяданне. III—59.
**КРЫГА Алесь.** Порт прызначэння. Аповесць. VIII—10; IX—10.
**КУНЬКО Леў.** У роднай хаце. Апавяданне. X—98.
**КУЛЬЧЫЦКІ Вячаслаў.** Вялікая вада. Пятрусь. Апавяданні. VI—65.
**НАВУМЕНКА Іван.** Сорак трэці. Раман. X — 4; XI — 7; XII — 7.
**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь.** Чорны дзень. Аповесць. VI—11.
**САЧАНКА Барыс.** На хутары дзядзькі Вахлака. З кнігі «Чужое неба». VIII—88.
**СТРАЛЬЦОЎ Міхась.** Асеннім днём. Апавяданне. IX—86.
**ХОМЧАНКА Васіль.** Клім Іванавіч. Незнаёмая песня. Да цягніка дзве гадзіны. Апавяданні. IV—11.
**ЯРАШЭВІЧ Эдуард.** Летняя практыка ў Вербічах. Аповесць. VII—11.

### Пераклады

З РУСКАЙ
**ПРЫШВІН Міхаіл.** З дзённікаў. II—96.

З УКРАІНСКАЙ
**ГУЦАЛА Яўген.** Сельскія настаўнікі. Аповесць. III—79; IV—41.

З ФРАНЦУЗСКАЙ
**МАРУА Андрэ.** Кар'ера. Апавяданне. V—76.

## ПАЭЗІЯ

**АРОЧКА Мікола.** *** Слухаю, слухаю боль чужы... *** Палю за сабою масты... *** Жывую ніць перапляценняў... *** Паміж замшэлых плітаў і вянкоў... Вершы. X—105.
**БАРАДУЛІН Рыгор.** Колас на камені. Мяккія рукі. Ранішні верш. На Куршскай касе. *** Што нам кола сяброў завужаць... На сустрэчы партызанаў. *** Пахне хлебам віцебская вуліца... Вершы. V—67.
**БАСУМАТРАВА Святлана.** *** Мядзяны колас долу хіліць жыта... *** Мы—дзеці вандроўнага веку... Танцы. Жнівень. Вершы. VII—9.
**БЕЛІЖЭНКА Барыс.** Ля партрэта Леніна. Крыгалом. Белая зямля. Сустрэча з бацькамі Юрыя Гагарына. Вершы. III—4.
**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута.** *** Як пачынаецца?.. *** Піць даюць з вядзерца градкам... Шэрыя сонцы. *** Намоў сябе да слабых быць лагоднай... Вершы. X—109.
**БОНДАР Таіса.** *** Зямля бацькоў, зямля Радзімы... Захапленне. Вясновая раніца. Вершы. XI—109.



**БРОЎКА Пятрусь.** Няхай жа вам не сняцца... Карэнні песні. У музеі. Сэрцалёт. Чаму я гэтак вас люблю? Неба. Рака. Каўказскія замалёўкі. Любая мясціна. *** Быў слоў нібы гусіны статак... Абы-якой не заставайся! Вясёлка. Вершы. VI—4.
**ВОЛЬСКІ Артур.** Слова ганаровага шахцёра. Буслы на мінарэце. Рыбакі. Нумараваныя дрэвы ў парку Чалюскінцаў. Пакута. Сусветы. Мікеланджэла. Вершы. VII—4.
**ВЯРБА Вера.** *** З надзённым клопатам адзіным... *** За прагай перамены... *** У непаўторнасці світання... *** Не, я успаміны не слаўлю... *** Мінулае — непераемна... *** На Новы год, у сон гарачы... Вершы. VIII—85.
**ГАЎРУСЁЎ Сцяпан.** *** Атуленае звонкай цішынёй... *** Зацярушаныя стрэхі... *** Да берага, асмужанага спёкай... *** Летам ноч — як звесці вока... *** Спакойна зашчапіўшы дзверы... Вершы. VI—73.
**ГІЛЕВІЧ Ніл.** Першы вясновы лівень. *** З крыўдаў-скарг хацеў я песню скласці... *** Паклон табе, мой беларускі краю! *** І жэніцца і родзіць вёска слаба... *** Ах, як вітаў ён песняй родны кут... Усмешка паэта. *** Жанчыны вёсак беларускіх... *** У звечарэлым садзе, што, цямнеючы... *** І ў лугах беларускіх, напэўна, цяпер ужо вечар... *** Лес ачнуўся, лес вялікадне святкуе... *** Я—за прагрэс... *** Зноў у спадчыну прадзеда лезу... *** Тут, дзе вучыўся і араць і сеяць... *** Знаю: мне не вяртацца гэтым шляхам... *** Усё ў чалавеку, што робіць яго чалавекам... *** Гады прад сабою раскіну наўсцяж... *** Асветленыя лавачкі—амаль усе пустыя... *** Малою—страх вось так яна ўяўляла... *** Мне не вельмі да спадобы рай прынадлівага поўдня... *** «Нашто трымацца так за памяць продкаў?!» Вершы. IX—79.
**ГОЛУБ Юрка.** Луг. Летам. *** На радасць жаўруковай дзюбе... Вершы. III—57.
**ГРАЧАНІКАЎ Анатоль.** Вясновая экспрэсія. Надзея. Крывавая балада. *** Я не рабіў нікому злога... Вершы. III—70.
**ГРАХОЎСКІ Сяргей.** Радзіма. Раённая сталіца. Спатканне. Узрост. *** Пакрыўдзіў, кажуць, чалавека лёс... Страта. *** З настылай восені вярніся... Вершы. IX—6.
**ДАЙНЕКА Леанід.** *** Ад гора прадзед слеп... Абед у заводскай сталоўцы. *** Будзь мужнай, песня... *** Сярод слоў, як сярод лясоў... *** Як мокрая птушка, праз поле, праз сад... *** Халодную ноччу бяссоннай... Вершы. XI—4.
**ДЗМІТРЫЕЎ Генадзь.** *** За вёскаю, там, дзе гусцей хмызнякі... *** Жыццё больш карала строга... Вершы. I—107.
**ДЗМІТРУСЁВА Таццяна.** З пісьмаў дадому. *** Яна не вінавяціла мяне... *** Снегу хочацца, снегу чыстага... Вершы. VI—63.
**ДУБОВІК Уладзімір.** *** Бачу я той дзіўны бераг... Верш. IV—40.
**ДУКСА Мар'ян.** Станцыя. *** Я нарадзіўся ў сорак трэцім... *** Ці помніш першы мой парыў... Вершы. VIII—109.
**ЗАБАЛОЦКАЯ Людміла.** *** Вопыту нам часам нестае... *** Дзе прычал? І сіне-жоўты бераг?.. *** Пакінь свой след на сонечнай зямлі... *** Іскрынкі ціхага агню... Вершы. IX—4.
**ЗАГОРСКАЯ Ніна.** *** Звіваю шчасце ў сувой... Верш. X—107.
**ЗАРЫЦКІ Аляксей.** Далёкія маланкі. Верш. III—73.
**ЗУЁНАК Васіль.** Размова з буслам. *** Устаньце, мёртвыя тыраны... *** Рэкі дзяцінства... *** Сплывае гук, а думка застаецца... Сцэнка. А голас застаўся. I—103; Хлопчык з помстай у сэрцы. Настрой. Летнія ямбы. Вершы. IV—37.
**ІЛЬЮШЧЫЦ Кастусь.** *** Штурмуюць войскі палігон... *** Тайгі каляровая хустка... Вершы. II—4.
**ІПАТАВА Вольга.** *** Ад бабулі, што клікалі Вольгай... *** Жыве ў Светлагорску Жэнька... *** Як здорава, што мне жыццё дае... *** Вы думаеце, я не сплю начэй?.. Вершы. III—55.
**КАМЕЙША Казімір.** Памяць. Мядзведзь. *** Пасвяжэе плынь на вадапоі... *** За белым азерцам гусіным... Шчаслівая. Успамін у садзе. Вершы. VIII—82.
**КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна.** Прывал. *** Не паўтараецца вясна... Прадчуванне. Крыўда. Вершы. IV—9.
**КІРЭЙЧЫК Іван.** Коні. Красуе жыта. *** Яшчэ ў лугах не выспела мятліца... Вершы. VIII—4.
**КУТАС Мікола.** *** Не трэба слоў... *** Як далеч, неабдымная зара... Фарбы. Вершы. II—95.
**ЛАСКОЎ Іван.** Трыццаць. Паэма. X—91.
**ЛАШУТКА Іван.** Зязюля. Саракі. Вершы. IV—113.
**ЛОБАЧ Святлана.** *** Сціхае боль... Не вечна быць бядзе... Верш. IX—85.
**ЛОЙКА Алег.** Сосны Купалы. *** Туманок мой, тумане рахманы... На Тураўскім замчышчы. Вершы. III—53.
**ЛОСЬ Еўдакія.** *** Красуе ўлетку сенажаць... *** У парку—проталкі... Днём перамогі. Хвала цеплыні. *** Той год, калі ў самалёце гарэў... *** Ні тумановых занавесак... Вершы. I—8.
**ЛУЖАНІН Максім.** Нарачанскія накіды. *** Заўжды была ў народзе майстру хвала... Сон. Надыход слова. *** Яшчэ цяпла папачакай... *** Часцей і часцей на сябе наракаю... *** Зайцы напрышывалі гузікаў... I—4; Пачатак чалавека. Бярозавік. *** Паданне ёсць... *** Перад тым, чаму веры няйму... Грыбнікі. *** Шаўкі і дарогі па-рознаму мераюць... Адказ. Вершы. XII—4.
**ЛУКША Валянцін.** Мая песня. Саракі. Вершы. VIII—108.
**МАКАЛЬ Пятрусь.** Я з вёскі. *** Да раніцы з дум упарта... Абедзенны перапынак. Ракеты і аўтамабілі... Куля і чалавек. *** Ураджай, ураджай... *** Я думаў, ты—мая турбота... *** То шоўкам касынак касых... Хлопец з усмешкай. Вершы. IV—4.
**МАЛЬЧЭЎСКАЯ Яўгенія.** Блакіт на рыштаваннях. *** Колькі было іх, надзей і трывог... Вершы. V—74.
**НІКАЛАЙЧАНКА Алесь.** *** Нервы, бы антэны... Беларусі. Вершы. IV—114.
**ПАНІЗНІК Сяргей.** Пры развітанні. Ільняная балада. Парада. *** Даўжэй жывіце, добрыя паэты... Вершы. XI—111.
**ПЫСІН Аляксей.** *** Мяркуй, што робіш для душы сваёй... *** Вось так ляжы сабе... *** Не ўгнацца мне за тымі маладымі... Добры конік «Запарожац». *** Вы лічыце, птушкі спяваюць...*** Я ведаю—я вінаваты... Вершы. XII—108.
**РАЗАНАЎ Алесь.** Назаўжды. Паэма. II—65; Пункціры. Вершы. XII—111.
**РУДКОЎСКІ Міхась.** *** Ён прыйдзе, поўдзень срэбнае падковы... *** У краі тым, дзе сосны ў сонцы плачуць... *** На ўсе вякі будзь блаславёны, дзень... Вершы. V—75.
**САЛТУК Алег.** Раўесніку. *** Аднавясковец наш даўно ў далечы... *** Калі і быў, то пройдзе боль... *** Зноў восень кінула вясло... Вершы. XI—103.

